



# ВІЦЕБСКІ РАБОЧЫ

Абласная незалежная масавая газета

Выдаецца з лістапада 1917 г.

Субота 27 лістапада 1993 г.
№ 152 (19287) Цана 15 руб.


◆ *ПАРЛАМЕНТ: ДЗЕНЬ ЗА ДНЁМ*

## Што скажаш людзям, дэпутат?

У абмеркаванні праекта пастановы па дакладах Станіслава Шушкевіча і Вячаслава Кебіча толькі на вячэрнім пасяджэнні 23 лістапада нарэшце была пастаўлена кропка.

У выніку пайменнага галасавання праект нарэшце быў прыняты. З найбольш важных пунктаў гэтага дакумента адзначым такія: да 1 снежня даручана распрацаваць механізм увядзення ўласнай валюты і да 15 снежня — прадставіць у Вярхоўны Савет структурныя змяненні апарату ўрада.

"Справіўшыся" з цяжкай ношай, народныя выбраннікі заняліся больш прывычнай для сябе справай — разглядам чарговых законаў. Літаральна за 15 мінут яны прынялі ў другім чытанні Закон "Аб асновах службы ў дзяржаўным апараце".

У заключэнне быў прыняты яшчэ адзін Закон — "Аб санітарна-эпідэмічным дабрабыце насельніцтва".

Спроба парламента разгледзець 24 лістапада паартыкульна праекты законаў "Аб грамадскіх аб'яднаннях" і "Аб альтэрнатыўнай службе" аказалася беспаспяховай: у зале не было кворуму. Затое адсутнасць на рабочых месцах больш за 100 дэпутатаў стала прадметам вострай крытыкі з боку прысутных. Дэпутаты прагаласавалі за ўнясенне ў парадак дня пытання аб забеспячэнні парадку работы сесіі і барацьбы з дэпутацкімі прагуламі.

Прыняўшы такое сур'ёзнае рашэнне, народныя выбраннікі тут жа зрабілі і другі рашучы крок, прагаласаваўшы без паартыкульнага разгляду за прыняцце ў цэлым праекта Закона "Аб залогу".

Пасля чаго прыняцце заканадаўчых актаў дэпутаты "паставілі на канвеер". Для завяршэння работ над імі патрабаваліся лічаныя мінуты.

На дзённым пасяджэнні першую кропку народныя выбраннікі паставілі на Законе "Аб пастаўках тавараў для дзяржаўных патрэб". За прыняцце дакумента ў другім чытанні прагаласавала 200 дэпутатаў.

Затым парламентарыі аддалі свае галасы за прыняцце ў першым чытанні законапраектаў аб ахове працы, аб папярэджванні інваліднасці і рэабілітацыі інвалідаў, аб племянной справе ў жывёлагадоўлі і аб ветэрынарнай справе.

## Дысцыпліна, дысцыпліна...

Вячэрняе пасяджэнне Вярхоўнага Савета 24 лістапада па тэлебачанні і радыё не трансліравалася. А шкада. Выбаршчыкі, якія даверылі цяперашнім парламентарыям прадстаўляць сябе ў вышэйшым органе заканадаўчай улады, не ўбачылі і не пачулі іх дэбатаў на, як сказаў адзін дэпутат, "далікатную" тэму — аб парламенцкай дысцыпліне.

Дыскусія вялася бурна. Выходзіць адзін дэпутат да мікрафона і пытае: а як будзем караць за прагулы Пятра Садоўскага і Міхаіла Фарфеля, якія працуюць пасламі ў Германіі і Ізраілі? А што будзем рабіць з касманаўтам Уладзімірам Кавалёнкам, які працуе ў іншай дзяржаве, а просьбу яго аб складанні дэпутацкіх абавязкаў парламент не задавальняе? Другі дэпутат, пачуўшы, што ў вышэйшым заканадаўчым органе Германіі за няўдзел у галасаванні штрафуюць дэпутата ад 30 да 100 марак, з'едліва пытае: а дзе мы маркі возьмем? Словам, разважалі ды меркавалі і прынялі адпаведную пастанову.

Станіслаў Шушкевіч, бачачы, што справе канец, прапанаваў прагаласаваць за тое, каб пастанова пачала дзейнічаць з моманту яе прыняцця. Куды там — на гэта згадзіліся толькі 159 народных выбраннікаў. Тады спікер прапанаваў, каб пастанова запрацавала з наступнага тыдня. Вынік галасавання такі ж сумны — 155 галасоў. І нічога не заставалася зрабіць Станіславу Станіслававічу, як развесці рукамі і канстатаваць: апублікуем у друку і праз дзесяць дзён дакумент пачне працаваць.

У самым канцы вячэрняга пасяджэння ў першым чытанні быў прыняты праект Закона аб спажывецкай кааперацыі.

**Белінфарм.**

# Падзеі. Факты. Каментарыі

## НЕДАРЭМНАЯ ТРЫВОГА,

### або Адкуль бяруцца мільённыя прыбыткі

На адным з нядаўніх пасяджэнняў прэзідыума абласнога Савета народных дэпутатаў была зроблена трывожная заява: калі не аказаць рашучую падтрымку сферы бытавога абслугоўвання, яна ў бліжэйшы час ляжа на лапаткі. З таго часу мінула недзе з месяц. І вось у аблвыканкоме разглядаецца пытанне аб асобных фінансавых выніках работы сферы абслугоўвання за дзевяць месяцаў. Зроблена гэта ў парадку кантролю перад распрацоўкай праектаў плана і бюджэту на наступны год.

Высветлілася цікавая дэталь. Наша бытоўка, якой вобласць, натуральна, яшчэ не паспела "аказаць рашучую падтрымку", выглядае не так ужо і кепска. Прыбытак склаў 914 мільёнаў рублёў, а ў параўнанні з адпаведным перыядам мінулага года ён узрос у 20 разоў. Выходзіць, трывога на прэзідыуме была дарэмнай? Жывуць бытавікі, мільёнамі варочаюць.

Але і тады, і цяпер нацяжкі ў ацэнцы сітуацыі не было і няма. Бытавое абслугоўванне за апошнія год-два моцна здало пазіцыі. Скарачаюцца віды паслуг і асабліва — рэзка падаюць аб'ёмы. Адкуль тады прыбытак? Здагадацца няцяжка — за кошт цэн. Без дзвюх тысяч у кішэні заходзіць у цырульню ці фатаграфію цяпер не мае сэнсу. А калі вам патрэбна паслуга швейнага атэлье, давядзецца накопліваць грошы, можа, і не адзін месяц.

Аналагічная сітуацыя, як аказалася, не толькі тут, але і ў іншых матэрыяльна-вытворчых сферах. Будаўнікі дапусцілі небывалае зніжэнне аб'ёмаў, а прыбытак у трэстах падскочыў у 30 -- 40 разоў. Транспартнікі ўвесь час ходзяць у аблвыканком за датацыямі на пасажырскія перавозкі, але маюць неблагі прыбытак, праўда, за кошт грузавых перавозак. Жыллёва-камунальная гаспадарка таксама да мільярда набліжаецца па прыбытках.

Дык дзе ўсё гэта дзяваецца? Чаму адусюль толькі і чуюцца галасы аб дапамозе? Ці не падманваем мы самі сябе? Калі коратка, можна адказаць і так: як нажылі, так і пражылі. Незвычайная дарагоўля энергетычных і матэрыяльных рэсурсаў, падаткі, зарплата, якую амаль штомесяц трэба павялічваць, імгненна з'ядаюць усе прыбыткі. Нічога не робіцца па пашырэнню і рэканструкцыі вытворчасці. Усё праядаецца. Усе заняты пошукам сродкаў. І знаходзяць іх — у нашых ушчэнт збяднелых кішэнях.

Дзе сёння тыя тэарэтыкі, якія яшчэ нядаўна гарантавалі, што рынак з яго свабоднымі цэнамі адрэгулюе ўсё сам? Будзе, маўляў, багацце прадуктаў і тавараў, а нам застанецца толькі хадзіць па супермаркетах і выбіраць. Як на блаславенным Захадзе. Але мы не пажадалі ўлічыць аднаго: пры манапольнай сістэме вытворчасці няма месца рынку. Эсэнгоўскі манапалізм набыў асабліва вычварную форму: зніжэнне вытворчасці суправаджаецца імклівым ростам цэн.

Наша вобласць — не якаянебудзь суверэнная тэрыторыя. Таму адрэгуляваць усе пытанні на месцы немагчыма. І ўсё ж нейкія захады зрабіць мяркуецца. Праўда, у будучым, у выніку распрацоўкі канцэпцыі новага плана і бюджэту і іх рэалізацыі. Члены выканкома пагадзіліся з думкай старшыні абласнога Савета У.Кулакова аб тым, што трэба мяняць падыходы ў размеркаванні расходнай часткі бюджэту, больш жорстка кантраляваць сродкі, што ідуць з абласной казны. Ужо цяпер дадзены даручэнні праверыць абгрунтаванасць расцэнак і цэн у шэрагу галін народнай гаспадаркі, скарачэння аб'ёмаў вытворчасці. Вырашана распрацаваць і прынцыпова іншы парадак датацый.

**А.ВІХРОЎ.**

## З УЗНАГАРОДАЙ!

За высокія паказчыкі, дасягнутыя ў вытворчасці збожжа ў 1993 годзе, Ганаровай граматай выканкома абласнога Савета народных дэпутатаў з выдачай першай прэміі ў размеры 1,5 мільёна рублёў узнагароджаны:

сярод раёнаў І групы

ПАСТАЎСКІ раён (старшыня раённага Савета народных дэпутатаў Чэпік Васіль Васільевіч, начальнік упраўлення сельскай гаспадаркі райвыканкома Гарлач Мікалай Васільевіч);

сярод раёнаў ІІ групы

ДОКШЫЦКІ раён (старшыня раённага Савета народных дэпутатаў Падрэз Іосіф Іванавіч, начальнік упраўлення сельскай гаспадаркі райвыканкома Палачанін Іосіф Мікалаевіч);

сярод раёнаў ІІІ групы

ШАРКАЎШЧЫНСКІ раён (старшыня раённага Савета народных дэпутатаў Клакоўскі Леанід Віктаравіч, начальнік упраўлення сельскай гаспадаркі райвыканкома Лаўрычонак Аля Іванаўна).

**(Заканчэнне на 4-й стар.).**

◆ *ПРАМЫСЛОВАСЦЬ: ЗЛОБА ДНЯ*

## ЗМАЎКАЮЦЬ МАТОРЫ

У лютым Віцебскі маторарамонтны завод адзначыў дваццаціпяцігадовы юбілей, а сёння над ім згусціліся хмары. Прадпрыемства працуе напаўсілы.

— І не таму, што наша прадукцыя нікому не патрэбна, — лічыць дырэктар завода Мікалай Раманавіч Аўчыннікаў. — Наадварот, калгасам і саўгасам неабходна рамантаваць тэхніку, рыхтавацца да вясны. А ў іх няма чым разлічвацца. Калі за мінулы год мы адрамантавалі амаль 11 тысяч рухавікоў, то сёлета не дацягваем нават да шасці тысяч. Прастойваюць амаль усе рамонтныя прадпрыемствы вобласці.

Сапраўды, парадаксальная сітуацыя. Галоўныя спажыўцы прадукцыі маторарамонтнікаў — калгасы і саўгасы аказаліся неплацежаздольнымі. Напрыклад, сёння яны плацяць за літр дызпаліва 1.400 рублёў, а прадаюць літр малака за 140 рублёў. Гаспадаркі адмаўляюцца ад паслуг рамонтнікаў. А гэта пагражае тым, што палеткі недаатрымаюць значную колькасць угнаенняў, будуць недаараны, недасеяны.

А як выходзяць са становішча самі маторарамонтнікі? Усімі сіламі спрабуюць захаваць калектыў, асвойваюць новыя віды работ. І да скарачэння людзей пакуль не дайшло.

Што чакае прадпрыемства ў пачатку свайго другога чвэрцьстагоддзя? Аптымістычнага адказу наш карэспандэнт не пачуў. Пакуль калгасы і саўгасы будуць стаяць на каленях, завод таксама не ўзнімецца. Так тут мяркуюць.

## АД КАЛЯРОВАГА ЭКРАНА ПАЦЯМНЕЛА Ў ВАЧАХ

У пакупнікоў, што наведалі фірменны магазін "Віцязь", пацямнела ў вачах. Цэны на каляровыя тэлевізары падскочылі ўдвая і перавалілі за мільён рублёў.

Не ад добрага жыцця пайшлі на такі крок вытворцы тэлевізійнай прадукцыі.

— Да старых праблем дабаўляюцца новыя, — тлумачыць сітуацыю намеснік генеральнага дырэктара вытворчага аб'яднання "Віцязь" Пётр Васільевіч Дзямянчонак. — Мы прывыклі ўжо да хранічнай нехваткі матэрыялаў і камплектуючых, іх дарагоўлі. А сёння ўзнікла праблема разлікаў з Расіяй за энерганосьбіты. Наша кацельня, як вядома, забяспечвае цяплом значную частку горада. Бюджэтныя арганізацыі, якія не маюць расійскіх грошай, у вялікім даўгу перад намі. Мы ў сваю чаргу не ў стане разлічыцца за газ. І гэта зачараванае кола ніяк не разарваць. Кацельня знаходзіцца на мяжы спынення. Усе гэтыя фактары, безумоўна, таксама ўплываюць на цану.

Больш аптымістычна настроены работнікі фірменнага магазіна. Сёлета цэны на каляровыя тэлевізары павышаліся сем разоў, а праблем з іх рэалізацыяй няма. "Віцязь" са сваёй мільённай цаной — па-ранейшаму дэфіцытная рэч на прылаўках віцебскіх магазінаў.

**Р.ВАЛОДЗІН.**

# Экспрэс — інфармацыя

*Акцыянерамі рыхтуюцца стаць на Віцебскім ордэна Леніна панчошна-трыкатажным камбінаце імя КІМ. Канферэнцыя працоўнага калектыву выказалася за тое, каб уключыць прадпрыемства ў спіс па раздзяржаўленню дзяржмаёмасці і стварэнню акцыянернага таварыства адкрытага тыпу.*

**Напэўна, упершыню ў судовай практыцы Фрунзенскага народнага суда Мінска за непавагу да суда быў аштрафаваны ... супрацоўнік органаў унутраных спраў — С. Місюк, старшы ўчастковы інспектар Фрунзенскага РАУС. Маёр Місюк бурна пратэставаў супраць дазволеных суддзёй здымак, якія праводзіліся Расійскім тэлебачаннем. Гэта адбылося на працэсе па іску журналісткі Асі Трацюк да С. Місюка аб абароне гонару і годнасці. Міліцыянер заявіў, што не дазволіць здымаць сябе ў форме, і пакінуў судовае пасяджэнне, якое перанесена з-за дзеянняў адказчыка на 10 снежня. Гонар мундзіра абыдзецца С.Місюку ўсяго ў 500 рублёў.**

*Некаторыя сродкі масавай інфармацыі абнародавалі ў апошні час сенсацыйныя заявы народнага дэпутата Рэспублікі Беларусь Я.Новікава аб нібыта разгледжаных у 1992 -- 1993 гадах рознымі судовымі інстанцыямі Беларусі каля дзесятка палітычных спраў, штучна пераведзеных у сферу грамадзянскага права, але па сутнасці накіраваных супраць дэмакратычна настроеных дэпутатаў, пісьменнікаў, журналістаў, актывістаў грамадска-палітычных арганізацый, друкаваных выданняў. Прэс-служба Вярхоўнага суда Рэспублікі Беларусь рашуча абвергла гэтыя домыслы, як не маючыя пад сабой ні прававой, ні грамадзянскай падставы. Падкрэслена, што ўсе справы, у тым ліку звязаныя з абаронай годнасці і гонару грамадзян або арганізацый і надалей будуць разглядацца ў судах толькі ў адпаведнасці з законам — усебакова, поўна і аб'ектыўна, без палітычнай прадузятасці.*

**Прэзідэнт ЗША Клінтан праз год пасля свайго выбрання дасягнуў самага нізкага ўзроўню папулярнасці з усіх амерыканскіх прэзідэнтаў за пасляваенны перыяд. Паводле даных апошняга апытання, толькі 49 працэнтаў амерыканцаў адабраюць яго дзейнасць.**

*Норкавы бум дакаціўся і да Віцебшчыны. Невядомыя "прагрызлі" сетку на звераферме калгаса "Дружба", што ў Браслаўскім раёне, бесперашкодна ўкралі 121 племянную норку на 24,2 мільёна рублёў.*

**1 снежня адзначаецца Сусветны дзень прафілактыкі СНІДу. У Беларусі пройдзе тыдзень прафілактыкі гэтага небяспечнага захворвання — з 1 па 7 снежня.**

*Два дні знаходзіўся ў Віцебску нямецкі прадпрымальнік Ёрген Ліонхард. Ні з адной з нашых фірм ён не заключыў ніякага кантракта, калі не лічыць папярэднюю дамоўленасць аб вырабе сувенірных шахмат.*

**Законнасці ў прыватызацыі жылля ў калгасах і саўгасах запатрабаваў заўчора, выступаючы на сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, народны дэпутат ад Лёзненскай выбарчай акругі Іван Авін. Падставай для такой заявы паслужыла праверка скаргаў на Лагойшчыне.**

Паводле паведамленняў інфармацыйных агенцтваў, рэспубліканскіх і замежных газет.

# СІТУАЦЫЯ

АД НАШЫХ УЛАСНЫХ КАРЭСПАНДЭНТАЎ

Герман КІРЫЛАЎ — Полацк

## АД ГАРАЧЫХ СЛОЎ НЕ ЦЯПЛЕЕ

Разгневаная дэлегацыя з мікрараёна "Задзвінне-2" з добра вядомай у Полацку вуліцы Марыненка, з'явілася ў гарвыканком і паставіла пытанне рубам: калі, нарэшце, у нашых кватэрах стане цёпла, калі павіцца гарачая вада? Зрэшты, для выканкомаўцаў такі дэмарш не быў вялікай неспадзяванкай: адносна гэтай праблемы амаль усё лета ішла цяганіна з вытворчым аб'яднаннем "Шкловалакно", кацельня якога забяспечвае цяплом ледзь не ўсю задзвінскую частку горада, дзе зараз пражывае амаль 20 тысяч чалавек, дзейнічаюць бальніца, школы, дзіцячыя сады-яслі і некалькі прадпрыемстваў і арганізацый. Калі што і магло здзівіць сяго-таго, дык гэта цярплівасць тамашніх жыхароў: сядзелі, маўчалі да апошняга, пакуль сапраўды не дапякло.

І выканком мусіў рэагаваць самым рашучым чынам. На чарговае пасяджэнне было спецыяльна вынесена пытанне аб падачы цяпла ў Задзвінне.

Сталася так, што забудова новага мікрараёна за Дзвіной, які часцей называюць цяпер вуліцай Марыненка, і ўзвядзенне другой чаргі завода шкловалакна непадалёк вяліся амаль адначасова. Тады было прынята разумнае рашэнне: пабудаваць побач з вёскай Ксты за кошт асігнаванняў на новы завод магутную кацельню, якая забяспечвала б цяплом і новыя цэхі прадпрыемства, і новы жылы масіў. Так яно і было да пэўнага часу.

На жаль, у апошнія гады інтарэсы горада пачалі разыходзіцца з інтарэсамі аб'яднання "Шкловалакно". Аб'яднанне зараз балансуе на грані банкруцтва, прычым не па сваёй віне. Па-першае, пачалася канверсія, па-другое, галоўныя яго спажыўцы аказаліся ў блізкім замежжы, ад прадукцыі паадмаўляліся, таму валакном і тканінай завалены склады. Першую вытворчасць, якая размешчана ў рысе горада, давялося амаль што прыпыніць. Не стала грошай на мазут для кацельні, і яна мінулым летам давала цяпло па сутнасці толькі для вытворчых патрэб. Збяднелі і спажыўцы цеплавой энергіі, за імі скапіліся салідныя даўгі. А тут яшчэ па цяперашняму правілу плату за энергарэсурсы неабходна ўносіць наперад...

Пасяджэнне выканкома праходзіла бурна. Абодва бакі апелыравалі выжкімі довадамі. Члены выканкома папракалі кіраўніцтва "Шкловалакна", маўляў, свае вузкія інтарэсы яно ставіць вышэй за грамадскія, а хіба можна пакінуць людзей без гарачай вады, не разумець сацыяльнай значнасці праблемы? Прадстаўнікі другога боку не без падстаў заўважалі ў адказ: цяпер рынак, за ўсё трэба плаціць, прадпрыемства само ледзьве дыхае, а мазут даражэў і даражэе з кожным тыднем, да таго ж яго ўлетку нагул нельга было дастаць. На гэта прыводзіўся нібыта бясспрэчны контраргумент: "Шкловалакно" знаходзіцца ў веданні дзяржкамітэта па нафце і хіміі, які распараджаецца нафтарэсурсамі, дык хіба можа так быць, каб ён не паспрыяў свайму прадпрыемству? У адказ гучала: размеркаванне нафтапрадуктаў знаходзіцца пад жорсткім кантролем урада, камітэт ледзь выкройваў тоесёе для падтрымання вытворчасці, за якую адказвае, а цяпло для горада — не яго клопат. Тут ужо не было мяжы абурэнню: кацельня ў Кстах задумвалася не як ведамасная, а рэгіянальная, на сілкаванне добрай чвэрці горада, і калі "Шкловалакно" не ў стане ўтрымліваць яе і забяспечваць кліентуру, то няхай перадасць у ведамства "Белэнерга".

Як і варта было чакаць, ні да якога "кансенсуса" не прыйшлі, кожны бок застаўся пры сваіх пераканнях і пры сваіх інтарэсах. Спрэчка працягвалася. Штодзённыя пошукі хоць некалькіх тон мазуту, каб падтрымаць мінімальны рэжым работы катлоў, на час прыглушылі набалелую праблему з абагрэвам Задзвіння. А тут ударылі маразы. У жылых дамах, у школах і садах-яслях, у бальнічных палатах, у аўтапарку № 2, дарожна-будаўнічым участку, у іншых тамашніх арганізацыях і ўстановах пачалі дрыжэць ад холаду. У кватэрах пачасціліся перабоі з газам на кухнях: усе грэліся, запальваючы канфоркі, і газасховішчы імгненна апусташаліся. Гарвыканком зноў паставіў на абмеркаванне тое ж самае пытанне аб рабоце кацельні ў Кстах.

Кіраўніцтва вытворчага аб'яднання "Шкловалакно" заняло "крутую" пазіцыю: няхай спачатку спажыўцы цяпла, а іх, дарэчы, шмат, заплацяць свае даўгі, якія дасягнулі амаль 700 мільёнаў рублёў. Пакуль толькі саўгас-камбінат "Вясна" яшчэ так-сяк разлічваўся за пададзеную на цяплічны комплекс энергію, за тыя грошы, уласна, і маглі набываць для кацельні нейкія тоны мазуту. Зараз тут нават мізэрнага запасу паліва няма, кожны дзень вымушаны думаць, чым паліць заўтра. І, наогул, больш цеплавая энергія адпускацца ў доўг не будзе, няхай кожны спажывец уносіць, як і належыць цяпер, папярэднюю аплату. Вось такі быў сказ кіраўнікоў аб'яднання. Не падзейнічаў, не зрабіў уражання на іх і такі довад: дык што, выходзіць, неабходна пачынаць браць падаткі ў бюджэт наперад, каб даць грошы бюджэтным арганізацыям — бальніцы, школам, садам-яслям і іншым — для папярэдняга разліку за цяпло? Што датычыць перадачы кацельні ў энергетычнае ведамства, то і на гэта кіраўніцтва "Шкловалакна" па-ранейшаму не згодна, маўляў, яна — уласнасць працоўнага калектыву. Зрэшты, здзіўляцца не прыходзіцца — хто сёння адмовіцца ад выгады гандляваць цяплом? У выканкоме тут жа зрабілі матэматычныя выкладкі, і высветлілася, што за лістапад аб'яднанне выстаўляе сваім задзвінскім кліентам рахункі на агульную суму болш чым 1,7 мільярда рублёў, а за сваю асноўную прадукцыю за кастрычнік узяло толькі 1,2 мільярда. Красамоўныя лічбы!

І зноў спрэчкі закончыліся нічым. Гарвыканком палічыў неабходным апеляваць да Савета Міністраў. Генеральны ж дырэктар "Шкловалакна" Я.А.Барысаў звярнуўся ў мясцовую газету "Полацкі веснік" з растлумачэннем сваёй пазіцыі: няхай даўжнікі разлічацца за атрыманае цяпло, а гарвыканком пабудуе станцыю падпампоўкі цёплай вады. Гэтую станцыю даўно павінны былі здаць, без яе нельга стварыць нармальны напор, каб цяпло дайшло на дзевятыя паверхі дамоў. А жыхары наракаюць на прадпрыемства...

Гарачыя спрэчкі выйшлі на новы віток. Толькі людзям у Задзвінні ад гэтага не зрабілася цяплей.

♦ З ЮБІЛЕЕМ!

## На плячах — цэлая эпоха

**Так, менавіта эпоха. І тут няма перабольшання. Мацвей Іванавіч Ястрабаў усяго на 13 год маладзейшы за наша XX стагоддзе. Днямі яму спаўняецца 80 год.**

Любое чалавечае жыццё няпроста ўкласці ў пракрустава ложа кароткай заметкі. І тым больш — біяграфію Мацвея Іванавіча, багатую на падзеі, удзельнікам якіх ён быў на працягу доўгіх, неспакойных, трывожных, а ўсё ж і шчаслівых год.

У 1939 годзе з Падмаскоўя, дзе нарадзіўся і рос (дарэчы, дзяцінства было няпростае, гадаваўся без бацькоў), дзе ў 14 год пачалася яго працоўная біяграфія, ён прыязджае ў Беларусь.

У першыя месяцы Вялікай Айчыннай вайны служыў у Савецкай Арміі, а затым партызаніў на Ушаччыне — быў камандзірам падпольнай групы, камісарам атрада, брыгады, сакратаром падпольнага райкома КПБ.

Уся пасляваенная дзейнасць М.І.Ястрабава звязана з журналістыкай і паліграфіяй. Ён працуе ў газеце "Віцебскі рабочы", начальнікам упраўлення па друку аблвыканкома, дырэктарам абласной друкарні, дырэктарам выдавецтва Віцебскага абкома КПБ.

Ён з гордасцю ўспамінае, як аднаўлялі паліграфічную базу ў вобласці, як будавалі новую друкарню ў Віцебску, якая і сёння, крыху расшырыўшыся і памяняўшы абсталяванне, выдае і шматлікія газеты, і іншую друкаваную прадукцыю.

Асобна хацелася б сказаць менавіта пра творчую журналісцкую работу ветэрана. Газета, кажуць, жыве адзін дзень. Столькі ж і газетныя матэрыялы. Але ёсць у Мацвея Іванавіча і салідная журналісцкая праца, якой ён займаўся доўгія гады. Гэта 183 машынапісныя старонкі ўспамінаў пра ваенные ліхалецце, якія ён назваў "Партызанскія былі". Няпросты іх лёс. У свой час кніга была падрыхтавана да друку, але затым... згубілася ў мінскім выдавецтве. На старасці год давялося былому ветэрану зноў садзіцца за пісьмовы стол. А тут — перабудова, змена арыенціраў...

Усім нам сёння жывецца няпроста. А ветэранам, відаць, найцяжэй. І справа не толькі ў абвальнай дарагоўлі. Ёсць паняцці духоўныя, ёсць горыч ад таго, што тыя светлыя ідэалы, якім ты некалі прысвяціў сваё жыццё, сёння затаптаны ў гразь...

Але ветэраны не прывыклі здавацца. М.І.Ястрабаў і цяпер лічыць адной з самых яркіх старонак у сваім жыцці барацьбу з нямецка-фашысцкімі акупантамі. А што датычыць сённяшняга дня, то ён верыць у мудрасць і сілу народа і ў тое, што рана ці позна хмары над Айчынай развеюцца...

Мужнасці і даўгалецця табе, калега!

**Калектыў рэдакцыі газеты "Віцебскі рабочы".**

♦ *КУЛЬТУРА*

## СВЯТА КНІГІ Ў ДЭСАНТНІКАЎ

Няма больш гарнізоннага Дома афіцэраў, заціхлі хваляванні, выкліканыя яго закрыццём. Не толькі сярод ветэранаў Узброеных Сіл і афіцэраў дэсантнай дывізіі, але і ў горадзе знайшлося шмат людзей, каго не пакінула абыякавым гэтае рашэнне Міністэрства абароны рэспублікі. Шмат аб гэтым пісалася ў абласной прэсе. І ўсё ж адзіны ў гарнізоне ачаг культуры ваеннаслужачых выратаваць не ўдалося. А вось бібліятэка з амаль шаснаццацітысячным фондам, да таго ж унікальнага па свайму саставу, засталася толькі дзякуючы людзям, улюбёным у кнігу — Лідзіі Сцяпанаўне Гардзіеўскай, Ізабэле Міхайлаўне Баландзінай, афіцэрам С.Іванову, І.Рыжанкову, Н.Літошку. Па іх хадайніцтву ў штаце ўпраўлення паветрана-дэсантнай дывізіі была ўведзена пасада бібліятэкара, а кнігі з былога Дома афіцэраў былі перавезены ў штаб злучэння, дзе і знайшлі сабе новую прапіску.

Шмат сіл і сродкаў было затрачана, каб з паўпадвальнага памяшкання зрабіць бібліятэку. І вось наступіў дзень яе адкрыцця. Гасцямі дэсантнікаў сталі сакратар абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі паэт Алег Салтук, ветэраны Узброеных Сіл і паветрана-дэсантных войск І.Барысаў, П.Шкіндзер, І.Красінскі.

Усе выступаючыя на адкрыцці бібліятэкі былі салідарныя ў тым, што ў сяброў кнігі сёння вялікае свята. Сёння ў такі складаны і супярэчлівы час, калі ачагі культуры паўсюднаператвараюцца ў гандлёвыя кропкі і іншыя пункты зборычша бізнесменаў, такія святы бываюць рэдка. А як адзначыла Лідзія Сцяпанаўна Гардзіеўская, былая гарнізонная бібліятэка бярэ свой пачатак з 1950 года. Сотні тысяч людзей, як ваенных, так і цывільных, за гэтыя гады былі яе чытачамі. Напрыклад, у камендацкай роце злучэння служыць гвардыі радавы Павел Калкоў. Ён з'яўляецца актыўным чытачом бібліятэкі. Лідзія Сцяпанаўна добра помніць і бацьку Паўла, які таксама пастаянна наведваў гэтую бібліятэку.

Ад імя дэсантнікаў дывізіі на ўрачыстым вечары выступіў гвардыі старшы прапаршчык В.Прэдзеін. Ён падзякаваў энтузіястам сваёй справы, дзякуючы якім гарнізонная бібліятэка набыла другое жыццё.

А якое свята кнігі без тых людзей, хто іх стварае?

Расказ Алега Салтука аб сваім творчым шляху, яго вершы цёпла былі сустрэты прысутнымі.

На гэтай мажорнай ноце і можна закончыць расказ аб адкрыцці бібліятэкі ды не атрымліваецца. Літаральна днямі стала вядома, што пад пагрозай закрыцця аказалася музычная школа, якая размяшчаецца ў Доме афіцэраў Баравухскага гарнізона. А там жа займаюцца дзеці афіцэраў і прапаршчыкаў, для якіх яна так многа значыць! Але школа не ў стане плаціць за арэнду памяшкання, ды і знайшліся людзі з тоўстымі кашалькамі, гатовыя выкласці Дому афіцэраў кругленькую суму.

Статыстыка гаворыць, што за апошнія гады большая частка насельніцтва рэспублікі стала жыць горш, бядней. Але гэта не самае страшнае. Бяднейшымі сталі нашы душы. А гэта значна страшней. І іх выратаваць можна толькі сустракаючыся з цудоўным — літаратурай, мастацтвам.

**Гвардыі маёр А.МАЦЯЮН.**

## Каморнікам спраў хопіць

Падобна, што прафесія каморніка ў хуткім часе стане асабліва папулярнай. Закон аб прыватнай уласнасці на зямлю дасць магчымасць людзям мець свае надзелы. А гэта ў арганізацыйным плане — не так проста. Менавіта таму і прыняў аблвыканкам рашэнне аб стварэнні землеўпарадкавальнай службы ў гарадах, пасёлках гарадскога тыпу, сельскіх і пасялковых Саветах народных дэпутатаў і даўкамплектаванні аддзелаў па зямельнай рэформе і землеўпарадкаванню райвыканкомаў і аблвыканкома.

Мяркуецца, што акты землекарыстання давядзецца выдаць не менш як паўмільёну чалавек.

**(Наш кар.).**

# Горад у перспектыве

Спецыялісты прадказваюць, што сучасныя гарады будуць расці больш ушыр, чым увысь. Не цесныя і не заўсёды зручныя кватэры ў густанаселеных дамах выберуць будучыя навасельнікі, а прасторныя адасобленыя катэджы. Горад зменіць сацыяльны воблік. Гэта будзе горад-парк. Толькі хто ведае, як яно складзецца праз 20 -- 50 гадоў?

Але на тое і існуюць службы архітэктуры і горадабудаўніцтва, якія, калі не ведаць, то хоць бы прагназіраваць сітуацыю павінны. Інакш пойдзе хаатычная забудова прыгарадных тэрыторый, і тады змяніць што-небудзь, уплываць на працэс будзе вельмі складана. Менавіта таму на разгляд пасяджэння аблвыканкома і было вынесена пытанне аб прагнозах тэрытарыяльнага развіцця Віцебска, Полацка-Наваполацка і Оршы. Вызначана дзве перспектывы: блізкая — да канца стагоддзя і больш аддаленая — да 2015 года.

А катэджы — яны ўжо ёсць і сёння. Толькі большасць з тых, хто марыць аб уласным кутку, з радасцю згадзіліся б і на звычайную кватэру ў шматпавярхоўцы. На жаль, і гэта становіцца для многіх недасягальнай раскошай.

**А.ВІХРОЎ.**

♦ РЫНАК І МЫ

## Аляксандр СЕМЯНЕЦ:
# «АЎТОБУСЫ НА МЯЖЫ СПЫНЕННЯ»

**Тое, што ў нашай прамысловасці і сельскай гаспадарцы поўны завал, бачна і зразумела, напэўна, кожнаму, а не толькі народным дэпутатам. Нездарма на праходзячай зараз сесіі Вярхоўнага Савета рэспублікі на першае месца ў парадку дня яны паставілі ўсё ж не Канстытуцыю, а менавіта блок эканамічных пытанняў. Не лепш сёння справы і на транспарце. Гэта яскрава відаць з гутаркі нашага карэспандэнта Л.Макаранкі з начальнікам вытворчага аб'яднання "Віцебскаблаўтатранс" А.А.СЕМЯНЦОМ.**

— Аляксандр Аляксеевіч, з якім бы аўтамабілістам у апошні час ні загаварыў наконт работы, усе літаральна лямантуюць. Няўжо і ў вас складваецца ледзь не катастрафічная абстаноўка?

— На жаль, гэта сапраўды так. Вы ж разумееце, што транспарт з'яўляецца перадатачным звяном паміж усімі астатнімі галінамі народнай гаспадаркі, і любыя ўзрушэнні ў іх немінуча адмоўна адбіваюцца на нашай дзейнасці. А ў нас жа ёсць яшчэ і свае спецыфічныя праблемы. Увогуле прама скажу: мы рэальна стаім на мяжы поўнага спынення з усімі адпаведнымі вынікамі. Як для прадпрыемстваў і арганізацый, так і для насельніцтва. Рэзкае павышэнне цэн на энергарэсурсы і прынятыя ўрадам у сувязі з гэтым рашэнні паставілі нас проста ў невыноснае становішча.

**— Можа, мы пагаворым спачатку аб агульных праблемах, а потым асобна пра грузавыя і пасажырскія перавозкі? Як для вас лепей?**

— Ведаеце, беды і там, і тут адны і тыя ж. Крах фінансаў, дарагоўля і частыя перабоі з палівам — гэта, бадай, галоўнае, што псуе нам зараз жыццё і ў грузавой, і пасажырскай службе. Адносна перавозак грузаў варта толькі прывесці такую лічбу — наша кліентура запазычыла нам 3 мільярды 200 мільёнаў рублёў. Самі ўяўляеце, што гэта за сума і як можна ў такіх умовах яшчэ неяк працаваць, вазіць грузы, выплачваць людзям зарплату. Цяжка, надзвычай цяжка. Аднак я хацеў бы засяродзіць тут увагу імена на пасажырскіх перавозках, бо яны, як кажуць, больш сацыяльна значныя, датычаць усіх жыхароў вобласці і пагражаюць выбухам народнай незадаволенасці.

**— Вы лічыце, што і такое можа здарыцца?**

— Так, можа. Няўхільнае павышэнне цэн на энерганосьбіты паставілі пасажырскія аўтагаспадаркі перад дылемай: або спыненне работы наогул, або рэзкае скарачэнне перавозак людзей і ў гарадах, і на сяле. На працягу апошняга года мы ўжо да мяжы зменшылі колькасць маршрутаў і рэйсаў аўтобусаў у вобласці. Каб забяспечыць нармальную дзейнасць нашых калектываў, цяпер неабходна было б падняць кошт праезду ў восем — дзесяць разоў. Скажыце, які пасажыр гэта вытрымае? А між тым паліва, на якім трымаецца аўтатранспарт, падаражэла за гэты год у 22 разы. Калі яшчэ 1 студзеня тона бензіну каштавала 60 тысяч рублёў, то сёння — мільён 200 тысяч. А нам толькі на суткі для аўтобусаў патрэбна каля ста тон паліва, якое абыходзіцца больш чым у сто мільёнаў рублёў. Дзённая ж выручка за прададзеныя білеты і талоны на гарадскіх і прыгарадных маршрутах складае ўсяго 5,4 мільёна рублёў. Бачыце розніцу? У аўтагаспадарак проста няма сродкаў як на набыццё паліва, так і наогул на сваё існаванне.

**— І ўсё ўпіраецца ў паліва?**

— Не, не толькі. Прычыны сённяшніх праблем у пасажырскіх перавозках тояцца глыбей, чым гэта здаецца на першы погляд. Пры рэарганізацыі рэспубліканскага Міністэрства аўтамабільнага транспарту і ўваходжанні яго ў якасці аднаго са структурных падраздзяленняў у Міністэрства транспарту камунікацый у пасажырскага аўтатранспарту не аказалася гаспадара. Хто зараз адказвае ў Беларусі за пасажырскія перавозкі, каардынуе іх? Практычна ніхто. Пасажырскі транспарт аказаўся разарваным на шматкі па розных ведамствах. Мінскі пасажыраўтатранс адносіцца да камунальнай уласнасці, некаторыя абласныя аўтааб'яднанні, як і наша, — да рэспубліканскай, шэраг прадпрыемстваў працуюць на арэндзе, зусім асобна. Словам, кожны варыцца ў сваім саку, прадстаўлены сам сабе ў вырашэнні ўсіх цяжкасцей. Як хочаш, як можаш, так і выкручвайся.

Да таго ж пры рэарганізацыі рэспубліка перадала тарыфную палітыку на месцы. У Мінску сёння тарыфы ўстанаўлівае гарвыканком, у абласцях — аблвыканкомы, на міжгародныя перавозкі — міністэрства. Зноў размежаванне, хоць тарыфная палітыка, на мой погляд, павінна быць у рэспубліцы адзінай і скаардынаванай, бо яна — аснова гаспадарчай дзейнасці прадпрыемстваў.

Далей. Дзяржава, а дакладней, Савет Міністраў зараз практычна не нясе ніякай адказнасці за пасажырскія перавозкі. Я звяртаю на гэта ўвагу таму, што ва ўсіх развітых краінах пасажырскі транспарт з'яўляецца дзяржаўнай інфраструктурай.

**— Ва ўсіх краінах?**

— Падкрэсліваю, ва ўсіх развітых краінах адказнасць за пасажырскі транспарт нясе дзяржава, яна ўсяляк падтрымлівае яго развіццё, фарміруе тарыфную палітыку. Мы ж, як гэта ні дзіўна, аказаліся зараз адрэзанымі ад дзяржавы, хоць камукаму, а нам з нашым нізкім узроўнем жыцця, асабліва на сяле, яшчэ доўга давядзецца ў перавозках людзей разлічваць на грамадскі транспарт. Уваходзячы ж у Міністэрства транспарту і камунікацый дэпартамент, які нас курыруе, не адказвае за гаспадарчую дзейнасць ніжэйстаячых падраздзяленняў. Здзіўляецеся? Але гэта так. Наша дзяржава ставіцца да нас, як да пасынка.

**— Шчыра кажучы, мяне вашы словы сапраўды крыху здзіўляюць...**

— Ну што ж, паспрабую раскрыць сітуацыю хоць бы на такіх фактах. Сёння ў Беларусі амаль палавіна пасажыраў мае права на бясплатны праезд на гарадскім транспарце. Добра гэта для людзей? Напэўна, добра. Але ж, даючы такую льготу, урад павінен паклапаціцца аб кампенсацыі нашых страт. Скажам, летась у кастрычніку права на бясплатны праезд атрымалі пенсіянеры, якіх у вобласці амаль 300 тысяч з мільёна 400 тысяч усіх жыхароў. Меркавалася, што на працягу месяца будзе прадумана, як пакрыць звязаныя з гэтым страты транспартнікаў. Меркавалася, аднак і па сённяшні дзень пытанне застаецца адкрытым. Гэта ж датычыцца таксама ваеннаслужачых, дэпутатаў, студэнтаў, а ўвогуле 52 катэгорый розных ільготнікаў. Мы зусім не супраць таго, каб заслужаныя ці малазабяспечаныя людзі ездзілі бясплатна або за палавінную плату, але ж нельга рабіць гэта за наш кошт!

**— Напэўна, з-за гэтага ў вашу касу не паступаюць немалыя грошы.**

— Канечне. Але і гэта не ўсё. Сёлета ў верасні ўрад прыняў рашэнне аб продажы паліва па свабодных цэнах. Здавалася б, пры жорстка ўстаноўленых тарыфах за праезд пасажырскаму транспарту будуць неяк вернуты яго дадатковыя расходы. І зноў нічога падобнага не адбылося, нас паставілі ўпоравень з усімі астатнімі, напрыклад, тымі ж камерцыйнымі структурамі, якія кожны лішні затрачаны рубель вернуць праз павышэнне цаны свайго тавару. А як вярнуць страчаныя мільёны нам? Аніяк, гэта, маўляў, наша асабістае гора.

**— Так, вам не пазайздросціш. Тым не менш вы ж яшчэ неяк працуеце?..**

— А што нам застаецца? Спыніць аўтобусы, не выпускаць іх з паркаў? Паралізаваць работу прамысловасці, іншых арганізацый і ўстаноў? Яшчэ больш ускладніць жыццё людзей? І чым гэта можа скончыцца? Здагадацца не цяжка. Шкада толькі, што не ўсе, каму належыць па абавязку службы, думаюць пра гэта. А стрэлачнікаў, як заўсёды, потым знойдуць. Аднак я хачу сказаць яшчэ пра адну дзівосную акалічнасць. Нядаўна ўрад абавязаў нас плаціць за спажываемую электраэнергію, цяпло і газ расійскімі рублямі. Гэта ўжо не лезе ні ў якія вароты. Ну ўявіце, дзе можа аўтавакзал ці аўтапарк, які ажыццяўляе пасажырскія перавозкі ў горадзе, зарабіць гэтыя расійскія рублі? А калі ён купіць іх у банку па існуючаму курсу за "зайчыкі", дык наогул вымушаны будзе пайсці па свеце з торбай. Лічу, што такія адносіны да пасажырскага транспарту з боку дзяржавы інакш як недарэчнымі не назавеш.

**— Але ж, Аляксандр Аляксеевіч, наколькі я ведаю, вы атрымліваеце пэўную датацыю з бюджэту...**

— Атрымліваем. Толькі ў якім размеры? За дзевяць месяцаў сёлета аб'яднанню выдзелена за пасажырскія перавозкі 2 мільярды 719 мільёнаў рублёў датацыі. І ў той жа час яно заплаціла з іх 1 мільярд 457 мільёнаў рублёў падаткаў. Вось і падлічыце, што нам засталося. Адной рукой даюць, а другой забіраюць. І гэта ў заведама стратнай арганізацыі! Хіба можна назваць такую падатковую палітыку разумнай?

**— Скажыце, а якія наогул страты вы панеслі на пасажырскіх перавозках за тыя ж тры кварталы?**

— Звыш 2 мільярдаў 200 мільёнаў рублёў. Калі падатковая палітыка і далей будзе такой у літаральным сэнсе слова разаральнай, пасажырскі аўтатранспарт немінуча пацерпіць хутка поўны крах. Мяркуйце самі. Паводле існуючых норм мы павінны спісаць сёння амаль 60 працэнтаў аўтобусаў, якія заняты на гарадскіх маршрутах, і больш палавіны — на міжгародніх, бо яны даўно выхадзілі сваё. Павінны, але не спісваем — няма чым іх замяніць. Вось ужо на працягу трох год рухомы састаў не абнаўляецца. Калі раней аб'яднанне штогод атрымлівала да 200 новых аўтобусаў, у тым ліку да 40 "Ікарусаў", розных запчастак прыкладна на мільён долараў, то за апошнія тры гады, паўтараю, не атрымалі нічога. Дзякуй людзям, што яны неяк прымудраюцца падтрымліваць у рабочым стане старыя машыны — калі б не іх вынаходлівасць і ўмельства, не ведаю, як бы зараз вазілі пасажыраў. На новую тэхніку ў нас саміх проста няма грошай. Як набыць "Ікарус", калі ён каштуе 110 тысяч долараў? А "ЛАЗ" — 65 мільёнаў карбованцаў.

**— Пагадзіцеся, што так бясконца не можа працягвацца. Без своечасовага абнаўлення аўтобуснага парка ў адзін далёка не цудоўны момант вы можаце аказацца ля разбітага карыта...**

— Згодзен. Калі дзяржава не дапаможа нам, так яно і будзе. І спадзявацца на цуд не прыходзіцца.

**— Ёсць хоць нейкая надзея на дапамогу дзяржавы? Як вядома, фінансы рэспублікі ў бядотным стане.**

— Тым не менш у гэтай сітуацыі дзяржава абавязана выразна вызначыць сваю пазіцыю адносна пасажырскага транспарту. Тут трэба дакладна размежаваць, што павінен зрабіць урад рэспублікі, што — вобласць, горад ці раён , а што — самі аўтагаспадаркі. Толькі разам і дружна можна неяк выцягнуць гэты цяжкі воз. Іншага выйсця няма, бо ніякі добры дзядзька не вырашыць нашы праблемы, разлічваць неабходна толькі на свае сілы. Дарэчы, у рэспубліцы існуе праграма падтрымкі пасажырскага транспарту, але яна ўвесь бягучы год бясконца дапрацоўваецца і калі пачне рэалізоўвацца — невядома. А ў ёй, трэба аддаць належнае, прадугледжана шмат чаго такога, што павінна паспрыяць паляпшэнню справы. Задача заключаецца зараз у тым, каб гэта праграма ўвайшла ў фарміраванне бюджэту рэспублікі на 1994 год. Калі ж гэта не адбудзецца, пасажырскі транспарт пратрымаецца максімум да вясны ці лета наступнага года.

**— Аляксандр Аляксеевіч, а ці не занадта песімістычна вы глядзіце на рэчы?**

— Думаю, што заўсёды трэба глядзець праўдзе ў вочы і не цешыць сябе пустымі надзеямі. Становішча настолькі сур'ёзнае, што аб гэтым павінны ведаць усе і ў першую чаргу органы ўлады, ад якіх залежыць хутчэйшая фінансавая падтрымка пасажырскай службы.

— Што ж, будзем спадзявацца на лепшае.

Гутарку вёў
Л.МАКАРАНКА.

♦ СВЕЦКАЯ ХРОНІКА

## КРЫМІНАЛЬНЫЯ "ТАЛЕНТЫ" ДЗЕЙНІЧАЮЦЬ

У сталіцы нашай рэспублікі існуе падпольная кінастудыя, якая займаецца вытворчасцю парнаграфічных стужак. Відэакасеты прадаюцца іншаземцам (часцей студэнтам з Захаду) за долары. Яны купляюць гэту прадукцыю з задавальненнем з-за яе "незвычайнай экзатычнасці".

Міліцыя займаецца пошукам новаспечаных парнавытворцаў, але пакуль безвынікова. Ходзяць чуткі, што адна з "гераінь" стужак — віцяблянка.

## НА "КРУЧКУ" МІСІЯНЕРАЎ

Грамадзянін Л. з Віцебска, трапіўшы неяк на сход адной заходняй рэлігійнай місіі, якія апошнім часам распаўсюдзілі сваю дзейнасць на тэрыторыі былога Саюза, быў прыемна здзіўлены, атрымаўшы замест сваіх ушчэнт зношаных рэчаў гуманітарную дапамогу ў выглядзе прыстойных чаравікаў і касцюма. Дзейнасць "спонсараў", відавочна, была накіравана на наступную зацікаўленасць місіяй.

Падумаўшы, Л. вырашыў "зацікавіцца" і ў наступны раз паедзе на веласіпедзе. Можа, дадуць аўтамабіль?

А.КАМАР.

## НАВІНЫ СА ШТАБ-КВАТЭРЫ СНД

Як заявіў карэспандэнту Белінфарма выканаўчы сакратар СНД Іван Каратчэня, практычна сфарміраваны новы штат каардынуючых органаў Садружнасці. Ён павялічыўся ў два разы і складае 175 чалавек. Служба бяспекі, паводле слоў Івана Каратчэні, складаецца з трох чалавек, асноўнай яе функцыяй з'яўляецца каардынацыя дзеянняў з органамі бяспекі дзяржаў, у якіх праводзяцца сустрэчы. Сам выканаўчы сакратар не прадстаўляе ніякую дзяржаву, а з'яўляецца міжнародным чыноўнікам. Інтарэсы дзяржаў-удзельніц Садружнасці будуць прадстаўляць паслы, якія атрымалі назначэнні ад кіраўнікоў дзяржаў. Расія, паведаміў Іван Каратчэня, рыхтуе надзвычайнага і паўнамоцнага пасла пры каардынуючых органах Садружнасці.

Як адзначыў Каратчэня, да выбараў у Расіі ніякіх важных сустрэч у рамках СНД не прадбачыцца. Іван Каратчэня таксама паведаміў, што ў яго адбылася тэлефонная размова з кіраўніком Грузіі, які выказаў шкадаванне, што Беларусь — адзіная дзяржава Садружнасці, якая не выказала сваіх адносін да жадання Грузіі ўступіць у састаў СНД.

Ларыса КЛЮЧНІКАВА,
Белінфарм.

♦ ЖЫЦЦЁ, ЯК ЯНО ЁСЦЬ

# І нацыянальныя турмы

Суверэнізацыя набывае новы размах. Абвясціўшы сябе незалежнай дзяржавай, Беларусь, як і належыць, паклапацілася аб граніцах, мытнях. Што ж, сапраўдны гаспадар заўсёды дбае пра моцную агароджу, каб чужыя козы айчынную капусту не папсавалі. Стварылі нацыянальную грашовую адзінку з выявай сімпатычных прадстаўнікоў мясцовай фауны. Але большасць з нас, стаўшы ўладальнікамі кішэннага "звярынца", чамусьці не разбагацела, а пачала енчыць, як тыя зайчаняты, што заблудзілі ў аўсе.

Між тым рынак патрабуе далейшых крокаў па шляху суверэнізацыі. Мы сказалі расіянам, каб тыя забіралі ў нас лішніх ваенных. Расіяне нам заявілі: неадкладна прымайце ад нас сваіх злачынцаў і выхоўвайце іх самі ва ўласных турмах.

Такая кіпучая дзейнасць ідзе, што аж гай шуміць. Маюцца на ўвазе гаі і лясныя масівы, якіх багата на Віцебшчыне, дзе здаўна размяшчаліся ваенныя гарадкі і засакрэчаныя аб'екты. Многія з іх ужо апусцелі, прыстасоўваюцца для выкарыстання ў народнай гаспадарцы.

Бравыя ракетчыкі, якія дыслацыраваліся на Пастаўшчыне, таксама пакуюць чамаданы. А асобныя ўжо ад'ехалі. Да канца года дывізія павінна поўнасцю пакінуць нашы мясціны. Матэрыяльныя каштоўнасці вайскоўцы, безумоўна, возьмуць з сабой. Але гэта не азначае, што пасля іх застанецца пустое месца. Амаль на саракагектарнай плошчы ў прыгарадным лесе стаіць каля сотні розных збудаванняў. Вось і ўзнікла думка размясціць тут папраўча-працоўную калонію ўзмоцненага рэжыму.

Адны гаспадары ўходзяць, іх месца адразу ж займаюць новыя. Ідзе камплектаванне штатаў, вядуцца работы па пераабсталяванню памяшканняў. Дзе стаялі стратэгічныя ракеты, там будуць вытворчыя цэхі, склады.

Ды толькі не заўсёды так гладка праходзіць "канверсія". Непадалёк ад ракетчыкаў знаходзіліся будбатаўцы. Рэшткі іх нерухомай маёмасці былі па дзяшоўцы прададзены камерцыйным структурам. Што пайшло на злом, а многае было раскрадзена.

Мяркуецца, што праз нейкі час сюды, у абсталяваную зону, прыбудзе і кантынгент — звыш тысячы асуджаных. А ўсяго, як паведамлялася ў друку, расійскае кіраўніцтва вырашыла накіраваць Рэспубліцы Беларусь прыкладна дзесяць тысяч нашых супляменнікаў з крымінальнымі адмецінамі ў біяграфіі. Хоць і брыдкія, але нашы. Не адмовішся! Трэба берагчы гонар суверэнітэту.

А.ВІХРОЎ.

І песню зачаў гарманіст
Пра сінія вочы дзяўчыны...

Фота Г. ЖУКАВА.





У Віцебскім вучылішчы мастацтваў прайшоў традыцыйны агляд-конкурс беларускіх абрадаў, у якім прынялі ўдзел навучэнцы старэйшых курсаў. Мерапрыемства праводзілася ў рамках вывучаемага прадмета па гісторыі Беларусі. Гэта былі своеасаблівыя тэатралізаваныя спаборніцтвы накшталт клуба вясёлых і знаходлівых паміж навучэнцамі розных аддзяленняў.

Журы ў складзе пяці чалавек, сярод якіх быў і кіраўнік ансамбля "Лявоніха" Л. С. Барадулька, аднагалосна вызначыла пераможцу — групу навучэнцаў аддзялення народных інструментаў.

Ганна ПЛАТОНАВА.

На здымках: удзельнікі конкурсу ў час выступлення.

Фота Г. ЖУКАВА.

# З УЗНАГАРОДАЙ!

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

Ганаровай граматай аблвыканкома з выдачай другой прэміі ў суме 1 мільён рублёў узнагароджаны:

сярод раёнаў I групы

УШАЦКІ раён (старшыня раённага Савета народных дэпутатаў Баруноў Іван Іванавіч, начальнік упраўлення сельскай гаспадаркі райвыканкома Шабанаў Валерый Васільевіч);

сярод раёнаў II групы

ДУБРОВЕНСКІ раён (старшыня раённага Савета народных дэпутатаў Ляшчынскі Міхаіл Аляксандравіч, начальнік упраўлення сельскай гаспадаркі райвыканкома Дулінец Браніслаў Нобертавіч);

МІЁРСКІ раён (старшыня раённага Савета народных дэпутатаў Паплаўскі Іван Уладзіміравіч, начальнік упраўлення сельскай гаспадаркі райвыканкома Скавародка Уладзімір Юр'евіч);

ШУМІЛІНСКІ раён (старшыня раённага Савета народных дэпутатаў Ганчароў Ягор Сцяпанавіч, старшыня раённага аграпрамысловага вытворчага аб'яднання "Шумілінскае" Штуро Мікалай Вільгельмавіч);

сярод раёнаў III групы

ГЛЫБОЦКІ раён (старшыня раённага Савета народных дэпутатаў Сініцкі Віктар Іосіфавіч, начальнік упраўлення сельскай гаспадаркі райвыканкома Альхімёнак Аляксандр Васільевіч);

АРШАНСКІ раён (старшыня раённага Савета народных дэпутатаў Мішульскі Фёдар Віктаравіч, начальнік упраўлення сельскай гаспадаркі райвыканкома Васькоўскі Леанід Якаўлевіч).

За высокія паказчыкі, дасягнутыя ў вытворчасці льнопрадукцыі ў 1993 годзе, Ганаровай граматай аблвыканкома з выдачай першай прэміі ў памеры 800 тысяч рублёў узнагароджаны:

ДОКШЫЦКІ раён (старшыня раённага Савета народных дэпутатаў Падрэз Іосіф Іванавіч, начальнік упраўлення сельскай гаспадаркі райвыканкома Палачанін Іосіф Мікалаевіч);

другой прэміі ў размеры 500 тысяч рублёў

ДУБРОВЕНСКІ раён (старшыня раённага Савета народных дэпутатаў Ляшчынскі Міхаіл Аляксандравіч, начальнік упраўлення сельскай гаспадаркі райвыканкома Дулінец Браніслаў Нобертавіч).

За дасягненне высокіх паказчыкаў па вытворчасці збожжа ў 1993 годзе Ганаровай граматай аблвыканкома з выдачай першай прэміі ў размеры 500 тысяч рублёў узнагароджаны:

калгас "Чырвоны барацьбіт" Чашніцкага раёна (старшыня калгаса Латушкін Васіль Сцяпанавіч);

другой прэміі ў размеры 300 тысяч рублёў

калгас імя Тэльмана Лепельскага раёна (старшыня калгаса Ляшчынскі Алег Аляксандравіч);

трэцяй прэміі ў размеры 200 тысяч рублёў

калгас "Зара камунізму" Докшыцкага раёна (старшыня калгаса Новікаў Уладзімір Мяфодзьевіч).

За дасягненне высокіх паказчыкаў па вытворчасці льнопрадукцыі ў 1993 годзе Ганаровай граматай аблвыканкома з выдачай першай прэміі ў размеры 500 тысяч рублёў узнагароджаны:

калгас "Чырвоны сцяг" Докшыцкага раёна (старшыня калгаса Лаўцэвіч Мікалай Антонавіч);

другой прэміі ў размеры 300 тысяч рублёў

саўгас "Рыдамльскі" Талачынскага раёна (дырэктар саўгаса Герасіменка Мікалай Васільевіч);

трэцяй прэміі ў размеры 200 тысяч рублёў

калгас "Гігант" Дубровенскага раёна (старшыня калгаса Мароз Анатоль Мікалаевіч).

За высокія паказчыкі, дасягнутыя ў вытворчасці кармоў у 1993 годзе, Ганаровай граматай аблвыканкома з выдачай першай прэміі ў размеры 500 тысяч рублёў узнагароджаны:

калгас імя Тэльмана Лепельскага раёна (старшыня калгаса Ляшчынскі Алег Аляксандравіч);

другой прэміі ў размеры 300 тысяч рублёў

эксперыментальная база імя Шмырова Віцебскага раёна (дырэктар базы Яблачкін Эдуард Пятровіч).

За высокія паказчыкі, дасягнутыя ў вытворчасці збожжа ў 1993 годзе, Ганаровай граматай абласнога Савета народных дэпутатаў узнагароджаны:

**Латушкін Васіль Сцяпанавіч** — старшыня калгаса "Чырвоны барацьбіт" Чашніцкага раёна;

**Ляшчынскі Алег Аляксандравіч** — старшыня калгаса імя Тэльмана Лепельскага раёна;

**Новікаў Уладзімір Мяфодзьевіч** — старшыня калгаса "Зара камунізму" Докшыцкага раёна

За дасягненне высокіх паказчыкаў па намалоту збожжа ўраджаю 1993 года Ганаровай граматай абласнога Савета народных дэпутатаў з выдачай першых прэмій у размеры па 450 тысяч рублёў узнагароджаны:

**Фёдараў Сяргей Уладзіміравіч** — камбайнер саўгаса імя Чарняхоўскага Дубровенскага раёна, які намалаціў на камбайне "Дон" 1422 тоны збожжа;

**Серафімаў Павел Рыгоравіч** — камбайнер калгаса "Маладая гвардыя" Полацкага раёна, які намалаціў на камбайне СК-5 "Ніва" 677 тон збожжа.

Ганаровай граматай абласнога Савета народных дэпутатаў з выдачай грашовай прэміі ў размеры 300 тысяч рублёў узнагароджаны:

**Бараноўскі Часлаў Францавіч** — кабайнер калгаса "Дружба" Пастаўскага раёна;

**Барткевіч Часлаў Феліксавіч** — камбайнер калгаса "Дружба" Пастаўскага раёна;

**Быкаў Аляксандр Міхайлавіч** — камбайнер саўгаса "Рассвет" Талачынскага раёна;

**Бобрык Віктар Іванавіч** — камбайнер калгаса "Усход" Дубровенскага раёна;

**Гарбуль Валерый Валянцінавіч** — камбайнер калгаса "Запаветы Ільіча" Верхнядзвінскага раёна;

**Жалязоўскі Міхаіл Паўлавіч** — камбайнер калгаса "Усход" Дубровенскага раёна;

**Ярмошкін Аляксандр Міхайлавіч** — камбайнер калгаса імя Дзяржынскага Дубровенскага раёна;

**Яўсеенка Віктар Сяргеевіч** — камбайнер саўгаса "Зарубы" Дубровенскага раёна;

**Кірплюк Марк Валянцінавіч** — камбайнер калгаса "Дружба" Пастаўскага раёна;

**Козіч Уладзімір Усцінавіч** — камбайнер калгаса "Уперад" Браслаўскага раёна;

**Кучынскі Юрый Іванавіч** — камбайнер саўгаса-тэхнікума "Смальяны" Аршанскага раёна;

**Лапатачкін Пётр Дзмітрыевіч** — камбайнер саўгаса "Асвейскі" Верхнядзвінскага раёна;

**Міхасёў Сяргей Макаравіч** — камбайнер саўгаса "Зарубы" Дубровенскага раёна;

**Астапенка Іван Іванавіч** — камбайнер саўгаса "Бабінічы" Аршанскага раёна;

**Осіпаў Аляксандр Уладзіміравіч** — камбайнер калгаса імя Чапаева Верхнядзвінскага раёна;

**Плігаўка Сяргей Анатольевіч** — камбайнер калгаса імя Тэльмана Лепельскага раёна;

**Сідаровіч Пётр Сямёнавіч** — камбайнер калгаса "Прагрэс" Пастаўскага раёна;

**Хадасенка Аўгусцін Іванавіч** — камбайнер калгаса "Свабода" Шаркаўшчынскага раёна;

**Чаканаў Аляксей Сяргеевіч** — камбайнер саўгаса імя Чарняхоўскага Дубровенскага раёна.

За высокія паказчыкі ў вырошчванні льну Ганаровай граматай абласнога Савета народных дэпутатаў з выдачай першай прэміі ў размеры 180 тысяч рублёў узнагароджаны:

**Фунікаў Маленцій Іванавіч** — звеннявы саўгаса "Боркавічы" Верхнядзвінскага раёна;

другой прэміі ў размеры 120 тысяч рублёў

**Валынка Аляксандр Фёдаравіч** — звеннявы калгаса "Зара" Полацкага раёна;

трэцяй прэміі ў размеры 100 тысяч рублёў

**Вавулаў Уладзімір Іванавіч** — звеннявы саўгаса "Рыдамльскі" Талачынскага раёна.

♦ *РЭЗАНАНС*

## Парадуйце аршанцаў спектаклем!

Прачытала ў газеце маналог Я.Шыпілы "І душу трэба насыціць..." і задумалася. Што ж вы, даражэнькія коласаўцы, забыліся пра аршанцаў? Чым жа мы вас пакрыўдзілі? Мы ж таксама хацелі б і свае душы насыціць.

Маналог вярнуў у былое, далёкае. Калісьці была сталым наведвальнікам вашага тэатра, не прапускала ніводнай прэм'еры. Лічыла за шчасце пазнаёміцца з кім-небудзь з артыстаў. Прыпамінаю, як у пасляваенныя гады аршанец Мікола Алтухоў напісаў для коласаўцаў п'есу (калі не памыляюся, называлася "Сын") з партызанскага жыцця. У тыя часы гэта тэма ўсіх хвалявала.

На прэм'еру паехала некалькі аршанцаў, у тым ліку яго маці, санітарка нашай бальніцы, і я. Спектакль прайшоў паспяхова. Гледачы шмат апладзіравалі артыстам Анатолю Шэлегу, Фёдару Шмакаву, Зінаідзе Канапельцы і іншым. Потым выклікалі на сцэну аўтара. Мікола быў зусім малады, саромеўся, неяк вуглавата кланяўся, прыкладаючы далоні да грудзей. Потым быў банкет у рэстаране. Шмат было сказана добрых слоў аўтару і артыстам. Хацелася б ведаць: я нічога не пераблытала? Гэта было так даўно, мабыць, гадоў 35 — 40 назад. Ці так называлася п'еса? Мажліва, ігралі ў тым спектаклі Цімох Сяргейчык, Анатоль Трус, А.Радзялоўская — любімыя артысты таго часу, мажліва, я іх памятаю па іншых п'есах, у іншых ролях.

Кожная сустрэча з любімым артыстам не толькі на сцэне, а і ў жыцці пакідае ў душы глыбокі след. Не было б шчасця, дык няшчасце памагло — здаецца, так кажуць у народзе. Вось і мне пашанцавала ўгледзець нейкія асаблівасці акцёрскага жыцця. У М.Ярмоленкі аднойчы забалела горла, павысілася тэмпература. Як урач прапісала яму строгі дамашні рэжым. Але гэты цяжкахворы адмовіўся ад бальнічнага ліста:

— Мушу працаваць — і ўсё!

З тых далёкіх часоў я зразумела, які нялёгкі хлеб у артыста.

У маёй прыяцелькі з Віцебска, звалі яе Марыя Абрамаўна, любілі сустракацца артысты за кубкам чаю. Вядома, да чаю яшчэ было тое-сёе. Назірала за імі і зайздросціла: як жа яны ўмеюць весяліцца, жартаваць! Асабліва мне падабалася іх вострая крытыка адзін аднаго. Але ніхто не крыўдаваў. На іншыя ж тэмы, акрамя тэатральных, павярнуць размову было немагчыма.

А ў Оршы мне пашчасціла запрасіць да сябе ў госці артыстаў, калі яны ў нас гастралявалі. Я пазнаёмілася тады з Г.Дубавым і яго жонкай (прабачце, прозвішча яе не памятаю). Цэлы тыдзень у Оршы было свята. Калі не памыляюся, было гэта ў 1984 годзе. Цудоўная восень, усюды толькі і чуваць былі размовы пра віцебскі тэатр, пра спектаклі, акцёраў. Асабліва цёпла аршанцы прынялі работу коласаўцаў "Паядынак" — спектакль, прысвечаны нашаму легендарнаму К.С.Заслонаву. Ролю Заслонава выконваў Я.Шыпіла. У зале прысутнічалі былыя партызаны і падпольшчыкі.

— Дзякуй, родныя, быццам з дзядзькам Косцем зноў пабачыліся, — выціраючы слёзы, казалі яны.

Напэўна, лепшых слоў і не трэба. Цудоўна тады сыгралі ролі фашысцкіх афіцэраў народныя артысты Беларусі Г.Дубаў і У.Куляшоў, ускрылі звярыную сутнасць фашысцкай маралі. Драматург М.Матукоўскі разам з калектывам тэатра знайшоў вельмі ўдалы падыход у паказе сувязі пакаленняў, а таксама ў трактоўцы вобраза К.Заслонава — не толькі як партызанскага важака, але і як мужа, бацькі, таварыша. Заслонаўцы ішлі на смерць дзеля міру на зямлі, яны верылі, што гэта будзе апошняя вайна.

Не думаў К.С.Заслонаў, што тых, хто застаўся жыць, спасцігнуць сённяшнія цяжкасці. Калі б ведаў, узняўся б і сказаў: "Людзі, вас шмат! Мільёны! Мільярды! І ніхто ж не хоча вайны і смерці! Дык чаму ж вы страляеце? Што вам дзяліць між сабой? Неба? Зямлю? Сонца? Іх хопіць на ўсіх!".

У гэтыя дні адзначаецца 90-годдзе з дня нараджэння А.К.Ільінскага. Удзячная лёсу, што давялося мне бачыць гэту акцёрскую глыбу, гонар беларускага народа ў ролі першага Несцеркі ў спектаклі, які стаў візітнай карткай тэатра імя Я.Коласа.

Бадай, хопіць успамінаў. Хацелася б пазнаёміцца з маладымі талентамі, сустрэцца са славутымі сучаснікамі. Парадуйце сваіх суседзяў-аршанцаў хоць адным спектаклем. А Я.Шыпілу віншую з юбілеем. Жадаю творчых поспехаў на радасць гледачам. Дык чакаем вас!

А.ДЗЕДЗІНЕЦ.

г.Орша.

*Калонка*

**АДДЗЕЛА ПІСЬМАЎ**

## АДНОЎЛЕНЫ «ГУЛАГ»

Гартаю пісьмы чытачоў, што ляжаць перада мной. Умоўна падзяляю рэдакцыйную пошту на "застойную" і "перабудовачную". Да першай групы адношу лісты з пытаннямі, якія былі актуальнымі яшчэ ў тыя старыя часы, але і па сёння застаюцца такімі ж. А ў другую трапляюць пісьмы з праблемамі, якія раней нам і ў самым дрэнным сне не маглі прысніцца, з праблемамі, народжанымі так званай перабудовай і наступнымі шматлікімі "паўзучымі" пераваротамі.

Першы стос пісьмаў можна назваць камунальна-бытавым. Як і дзесяткі год дагэтуль, гараджане скардзяцца на адсутнасць цяпла і вады ў кватэрах, на няўважлівасць і грубасць работнікаў сферы абслугоўвання, на перабоі ў рабоце транспарту... Тое самае, што было і раней, толькі больш абвострана і... амаль безнадзейна на нейкія перамены да лепшага. Ненавісны "таталітарызм" "дэмакраты" адрынулі, а з законамі, якія б стаялі на варце інтарэсаў людзей, не спяшаюцца. Вось таму мы сёння нікому непатрэбныя. І нават наадварот: як спажыўцы, напрыклад, гарачай вады і цяпла і як пасажыры тралейбуса ці аўтобуса мы нават шкоднікі — без нас было б лягчэй.

"Па выхадных вечарам, бліжэй да ночы, не працуе гарадскі транспарт. Уласна, у гэты час сапраўды няма чаго рабіць у горадзе. Але ж працуюць вакзалы, людзі ад'язджаюць і прыязджаюць. Як ім дабірацца дадому з сумкамі і чамаданамі, з малымі дзецьмі? А можа, і паязды спыніць на ноч? Улады, відаць, думаюць, што мы багатыя і можам скарыстаць таксі. Што ж, таксістам (і дзяржаўным, і прыватным) у гэты час прадастаўляецца поўная свабода, і нельга не думаць, што яны яе выкарыстаюць спаўна. Тое, што яны ўмеюць гэта рабіць, мы і раней не сумняваліся. Толькі вось дзе знайсці гэтыя тысячы, нават дзесяткі тысяч, каб расплаціцца за прадстаўленую цудоўную магчымасць шыкоўна даехаць пасля дзевяці гадзін вечара з вакзала дадому. Ведаю, што многія, у каго няма "лішніх" грошай, вымушаны ноч сядзець на вакзале, каб затым раніцай адправіцца дамоў першым аўтобусам ці трамваем... Дык што, вы мне параіце галасаваць за такую "дэмакратыю" і "самастойнасць"? Хопіць! Я ўжо адзін раз галасаваў за Саюз..."

Гэта радкі з пісьма віцябчаніна В.С.Лаўрыновіча. Вельмі многіх гараджан закранула заўчаснае спыненне руху гарадскога пасажырскага транспарту ў выхадныя дні. І прычына быццам бы аб'ектыўная — энергетычныя цяжкасці. Але калі глянуць глыбей, то за гэтай "аб'ектыўнасцю" мы ўбачым "сярмяжную" процілегласць ёй.

Думаю, невыпадкова аўтар пісьма нагадаў пра той, скасаваны ў Віскулях, Усесаюзны рэферэндум. Нас сёння стараюцца пераканаць, што падзел СССР быў непазбежным, што не ў Белавежскай пушчы, дык недзе ў Карпатах ці ў тамбоўскіх лясах, але ўсё роўна рэспублікі аддзяліліся б. Што ж, калі мець на ўвазе настойлівасць, з якой вядомая "тройка" расчляняльнікаў ішла да сваёй мэты, то трэба пагадзіцца, што не там, дык у іншым месцы Саюз яны ўсё роўна разарвалі б на кавалкі. Усё пытанне ў іншым: скарыстаўшы сваю часовую ўладу, "тройка" парушыла закон (а вынікі рэферэндуму і з'яўляюцца ім), растаптала думкі, надзеі і спадзяванні мільёнаў і мільёнаў людзей. У тым ліку і нашы з вамі. І менавіта ад гэтай аб'ектыўнасці, як ад печкі, і трэба танцаваць. Хоць, папраўдзе, і не да танцаў.

Гісторыя не мае ўмоўнага ладу, але я ўпэўнены: калі б у нас апошнія восем год былі іншыя кіраўнікі дзяржавы, якія б дбалі пра свой народ і Айчыну, не мелі б мы і тысячнай часткі тых праблем, што зваліліся сёння на нашы плечы.

"Не магу сабе ўявіць, каб я да "перабудовы" мог падумаць, што некалі ў магазіне не купіш ні хлеба, ні цукру, ні нават цыгарэт, — піша ў рэдакцыю ветэран вайны і працы, жыхар з вёскі Вітунічы Докшыцкага раёна А.Пісарэнка. — А за тое, што дадуць табе ва ўстанове даведку, трэба будзе плаціць... Прывычка курыць, канечне, шкодная, але стойкая. І асабліва ў тых, хто ўпершыню закурыў у акопах. А цяпер і хацеў бы, ды не кінеш — жыццё не дае... Сённяшнія "дэмакраты" праніклі да ўлады, крытыкуючы сталінскі ГУЛАГ. Але ж у якую бездань яны кінулі народ? Вакол беднасць, злачыннасць, беспрацоўе, безвыходнасць... Па ўсім выходзіць, што новы ГУЛАГ узводзяць..."

У.ТАЛЯРОНАК.

◆ ЛЮДЗІ. ПАДЗЕІ. ДАТЫ.

# На крылах рэвалюцыйнай рамантыкі

**28 лістапада спаўняецца 70 год з пачатку заснавання аб'яднання беларускіх пісьменнікаў "Маладняк". Яно прайшло складаны, часам супярэчлівы шлях ад ініцыятыўнай групы з шасці чалавек — М.Чарота, А.Александровіча, А.Бабарэкі, А.Дудара, Я.Пушчы, А.Вольнага — да Усебеларускага згуртавання паэтаў і пісьменнікаў, ад першых літаратурных спроб пачаткоўцаў — да твораў арыгінальных і праблемных. Арганізацыйнае афармленне аб'яднання адбылося 28 лістапада 1923 года вакол часопіса "Маладняк", які выходзіў спачатку як часопіс ЦК КП(б)Б і ЦК ЛКСМБ, а з лістапада 1926 года як орган Усебеларускага аб'яднання паэтаў і пісьменнікаў "Маладняка".**

Са згуртаваннем "Маладняк" звязаны масавы прыход у літаратуру таленавітай моладзі, ажыўленне літаратурнага руху ў Беларусі. Стварэнне "Маладняка" Я.Купала вітаў вершам "Арлянятам". Членамі аб'яднання ў розны час былі маладыя паэты і пісьменнікі П.Трус, А.Якімовіч, К.Чорны, Я.Журба, М.Лынькоў, П.Броўка, П.Глебка, М.Зарэцкі, Т.Кляшторны, Ю.Гаўрук і іншыя. Узначальвалі Цэнтральнае бюро "Маладняка" ў розныя гады М.Чарот, А.Вольны, Ул.Дубоўка, П.Галавач.

Вялікім аўтарытэтам сярод маладнякоўцаў карыстаўся М.Чарот. Як паэт, як грамадзянін, пісаў вядомы паэт і грамадскі дзеяч Н.Гілевіч, М.Чарот вырас "на прыгрэтых сонцам Кастрычніка загонах Беларусі", калі "прабіваліся да жыцця парасткі новых талентаў і хутка набіралі сілы, абяцаючы добры ўраджай". Яго творчасць была першай у беларускай літаратуры спробай мастацкага асэнсавання рэвалюцыйнай рэчаіснасці, яна жывілася сокамі нацыянальнай традыцыі, у ёй біўся пульс таго пераломнага часу, калі на нашай зямлі нараджалася новае жыццё.

За кароткі час імя паэта стала вельмі папулярным. Чытачам, маладым паэтам "ад станка і сахі" імпанавала, што яго характар гартаваўся на франтах грамадзянскай вайны, ён прайшоў падполле ў час белапольскай акупацыі, быў адным з першых сейбітаў на ніве беларускай культуры. У шматгалосым хоры маладых песняроў новай явы М.Чарот па праву займаў месца агульнапрызнанага саліста. Але перш чым стаць запявалам, яму давялося прайсці шлях творчага і грамадзянскага сталення.

Новая рэчаіснасць, поўная рэвалюцыйнага энтузіязму, прывабная сваімі перспектывамі, нібы штурхала паэта стаць упоравень з ёю, апяваць і ўслаўляць яе. Аптымістычныя матывы, рамантычна акрыленыя вобразы, маршавыя рытмы, што ўладна ўваходзілі ў чаротаўскую паэзію ўспрымаюцца як адказ на запатрабаванні часу.

Рэвалюцыя ва ўяўленні М.Чарота, як і яго аднадумцаў-маладнякоўцаў, — гэта усёмагутная сіла, удзельнікі бітвы за шчасце народа — асілкі, здольныя перавярнуць свет. У ім жыло адчуванне вялікіх, сусветна-гістарычных зрухаў, разуменне таго, што пачынаецца новая эра ў жыцці беларускага народа і ўсяго чалавецтва, цвёрдая ўпэўненасць, што "абшар нашай вольнай краіны ясным сонцам увесь азалоціцца". Сваё натхненне, сваю творчую энергію М.Чарот, як і многія маладнякоўцы, чэрпаў у барацьбе працоўнага народа супраць старога ладу. Гэта сутыкненне двух варожых светаў М.Чарот, напрыклад, маляваў у стылі палітычнага плаката, характэрнага для ўсёй савецкай паэзіі першых паслярэвалюцыйных год.

З агітацыйных вершаў, створаных у той час, выраслі чаротавы "Босыя на вогнішчы" — першая ў беларускай літаратуры рэвалюцыйная паэма, твор, які стаў этапным у гісторыі нашай паэзіі. Наватарства паэта перш за ўсё заключалася ў тым, што ён упершыню ў беларускай літаратуры "вывеў на старонкі паэмы "босых" — пралетарскую і сялянскую беднату, якая ў полымі жорсткай барацьбы руйнуе стары свет насілля і прыгнёту.

З вышыні сённяшняга дня М.Чарота, як і іншых маладнякоўцаў, можна папракнуць у тым, што ў іх творах няма рэальных герояў, людзей рэвалюцыі ў іх рэальным абліччы, з іх індывідуальнымі рысамі. Але ці трэба ў гэтым вінаваціць аўтараў? Відаць, не, бо паэтаў таго часу і большасць чытачоў не столькі цікавіў вобраз "канкрэтнага" чалавека, колькі натхняла веліч падзей, якімі жылі народ і краіна, абуджаныя рэвалюцыяй.

Актыўным маладнякоўцам быў і наш зямляк Ул.Дубоўка (нарадзіўся ў вёсцы Агароднікі Пастаўскага раёна). У лепшых яго творах перад чытачамі паўставала велічная фігура лірычнага героя — сына рэвалюцыі з яго багатым духоўным светам, маладога чалавека дваццатых гадоў, які не ўяўляе свайго жыцця без самаахвярнай барацьбы за высокія камуністычныя ідэалы.

Асабліва плённымі былі пошукі маладога паэта ў асэнсаванні багаццяў народнай творчасці. З імі звязана была ў 20-я гады работа над паэмамі, якія і вывелі яго на адно з вядучых месц сярод маладых. У іх ("Кругі", "Пурпуровых ветразей узвівы", "Штурмуйце будучыні аванпосты"). Ул.Дубоўка паказаў зрухі ў жыцці краіны, пераход Беларусі да новых форм грамадскага жыцця, да індустрыялізацыі і калектывізацыі, а таксама праблемы ўзаемаадносін жыцця і мастацтва. Ен заклікаў паэтаў ісці разам з пралетарыятам, быць актыўнымі будаўнікамі новага грамадства.

Мае сябры, супольнікі
у працы,
Штурмуйце будучыні
аванпосты!
Мы звыклі перашкодаў
не баяцца —
яны спрыяюць нашаму
узросту.
У час нялёгкі выйшлі мы
ў дарогу,
кагорту нашу ксцілі
навальніцы.
Байкушы розныя
ўздымалі скогат —
імкнуліся прымусіць
нас спыніцца.
А мы ішлі
з імпэтам віратлівым,
а мы ішлі няспынна і упарта,
і пурпуровых ветразей узвівы
трымалі курс
на сонечнае заўтра.
З нас кожны
рэвалюцыяй праняты,
кладзём шляхі да новых
дасягненняў.
Узвышшы высім
з пралетарыятам,
здзяйсняючы квяцістыя
імкненні.

Сённяшнім чытачам, магчыма, не ўсё зразумела з лексікі паэзіі маладнякоўцаў. Пурпуровыя ветразі — гэта сімвалічнае ўвасабленне ўзвышаных рамантычных мар аб будучым шчасці, аб заўтрашнім светлым дні. І квяцістыя імкненні - гэта таксама тое вялікае і ўзвышанае, да чаго імкнуліся людзі ў далёкія дваццатыя, куды скіроўвалі свой позірк маладыя паэты.

З вышыні сённяшняга развіцця беларускай літаратуры нельга не бачыць і многія недахопы ў творчасці маладнякоўцаў. Ім часам не хапала шырыні погляду на новую рэчаіснасць, сапраўднай глыбіні пранікнення ў працэсы грамадскага жыцця. Паэты іншы раз траплялі ў сферу чыстых абстракцый, злоўжывалі рызыкоўнымі эксперыментамі. І тым не менш многія творы маладнякоўцаў вытрымалі выпрабаванне часам, увайшлі ў залаты фонд беларускай літаратуры.

"Маладняк" меў філіі ў Віцебску, Гомелі, Магілёве, Оршы, Полацку, Слуцку і іншых гарадах Беларусі. У 1928 годзе ў дні ўрачыстага святкавання пяцігадовага юбілею аб'яднанне было рэарганізавана ў Беларускую асацыяцыю пралетарскіх пісьменнікаў (БелАПП). Назву "Маладняк" захаваў толькі часопіс былога аб'яднання, які выходзіў з гэтага часу як орган БелАПП.

**В.СОБАЛЬ.**

◆ ГАРАДЫ І ВЁСКІ ВІЦЕБШЧЫНЫ



Адміністрацыйна-культурны комплекс у вёсцы Пальмінка саўгаса "Гарадоцкі".

Фота Г. ЖУКАВА.




◆ ВО ДАЮЦЬ У ПОЛАЦКУ!

## Безліч «чаму»

Няўцям мне, чаму ў розных крамах на адны і тыя ж тавары і прадукты цэны розныя. Чаму, напрыклад, зялёны гарошак у магазіне па вул. Касманаўтаў каштуе 615 рублёў, а ў краме па праспекту К.Маркса — 660? Чаму "Омская" ў "Цэнтральным" "цягне" на 1110 рублёў, а ў "Юбілейным", за 200 метраў ад яго, на ўсе 1880? І чаму ў суседнім Наваполацку ў "Пралесцы" "Пікантнае" вымагае з вас 1330 рублёў, а ў Полацку толькі 980?

Такая неразбярыха і з іншымі таварамі і прадуктамі. Як ні спрабуеш разабрацца, ніяк не дапетрыш. Хто ўстанаўлівае цэны для кожнай крамы розныя, хто іх кантралюе і ці кантралюе наогул? Або адкуль бяруцца на цэтліках лішнія рублі і куды яны ідуць?

Парадзішся-памяркуеш паміж сабою каля прылаўка, паспрабуеш высветліць у прадаўцоў, а яны або маўчаць, як у рот вады набраўшы, або адбрыюць будзь здароў. Махнеш рукою і пойдзеш шцылам кашы хапіўшы. Дзе, у каго высветліць гульню цэн? Да Бога высока, да цара далёка (ды і няма, кажуць, ні таго, ні другога), а да мясцовых улад не дастукаешся. А чарвячок сумніву так і грызе нутро: "Чаму ж у адной краме гэты прадукт танней, а ў другой, за 200 метраў, даражэй?"

Можа, ты, шаноўны Несцерка, дапаможаш гэта высветліць?

З павагай Хвядос П'ЯНТОС.

Пастскрыптум. П'янтос — маё сапраўднае прозвішча. Хаця, шчыра кажучы, я не ўжываю ні "Омскай", ні "Пікантнага", але купляць мушу, бо сёння гэта самая канверсуемая валюта, якою даводзіцца разлічвацца і за дровы, і за каня, і за ўсё, што не можаш сам адзін агораць па гаспадарцы.

## Водар мяты з курыцай

Ростам цэн, іх бязмежжам сёння нікога не здзівіш. Звычна і тое, што ў розных крамах на адны і тыя ж тавары цэны розныя. Але бязмежжу гандлярскага самавольства няма мяжы. Напрыклад, давялося назіраць такую карціну: у краме ваенгандлю, што ў Полацку па вуліцы Камарова, заляжаліся куры — "сінія птушкі", аб якіх адна афіцыянтка з даўняга кінафільма вельмі перакануча сказала: "Курочка тридцать девятого года рождения".

Ну ніхто не жадае купляць гэтую "сінюю птушку" за вялікія грошы. Бо за такую цану яна не палезе ў горла. Тут і знайшлі прадпрымальныя прадаўцы выйсце. Завезлі ў краму таннае па сённяшніх мерках вінцо "Водар мяты" і пачалі сплаўляць яго з нагрузкай: пляшка "водару" і кавалак "сіняй птушкі" ў нагрузку на закуску. Хочаш бяры, хочаш не. Твая справа. І бралі людзі.

А хто і не мог узяць: грошай не хапала. А даказаць прадаўцам, што так рабіць нельга, што гандаль з нагрузкай забаронены і караецца, не хапала магутанькі. Бо любыя словы і довады адскоквалі ад ружовашчокіх жанчын, як гарох ад сценкі.

Д.АХРАМАЎ.

◆ МАЛЮЕ А. ДАРАГАКУПЕЦ




◆ З ЗАЛЫ — СЮДЫ!

## Пахмелачка

Зранку Пётр Міснік ламаў голаў, за кошт чаго апахмяліцца б.Датумкаў злятаць на камбікормавы завод, сперці піваварнага ячменю, "канверсаваць" яго на зелле. Папёрся не адзін — з сябрукамі, якія таксама пакутавалі ад галаўнога болю па вядомай прычыне. Кампаньёнаў тармазнулі і прывялі ў суд. Больш за ўсіх убухалі Місніку — 3 гады і 6 месяцаў не бачыць яму волі. Астатнім — буйныя штрафы. "Нішто сабе пахмелачка", — шкрабуць у одуме патыліцу паклоннікі Бахуса.

М.НЕСЦЕРАЎ.

г.Лепель.

## Усміхнёмся?

Жонка гаворыць мужу:

— Вячэра хутка будзе гатовая. Потым я выкупаю дзяцей, укладу іх спаць, прышыю гузікі да тваёй кашулі. І можна будзе пайсці ў кіно.

— Добра, — адказвае муж. — А калі ты сходзіш за білетамі?

***

Маленькі Стасік просіць старэйшага брата:

— Папрасі ў мамы грошай на марожанае.

— Прасі сам. Мама не толькі мая, але і твая.

— Так то яно так. Але ж ты з ёю больш знаёмы.

***

— Абвінавачваемы, вы сцвярджаеце, што моцна спужаліся, калі выцягнулі кашалёк з кішэні пацярпеўшага. Так?

— Так, пан суддзя. Спужаўся, бо кашалёк быў пусты.

***

— Якія суадносіны паміж фунтам, рублём і доларам?

— Фунт рублёў каштуе долар.

***

— Які ўраджай будзе ў гэтым годзе?

— Сярэдні: горшы, чым у мінулым годзе, але лепшы, чым у будучым.

***

— А ў гэтай камеры сядзіць наша гордасць, — паведамляе начальнік турмы. — Калі ён упершыню трапіў да нас, то быў непісьменны. Мы навучылі яго пісаць і чытаць. Цяпер ён сядзіць за падробку дакументаў.

Падрыхтаваў
А. МІХАСЁНАК.

# Ходзяць чуткі, што...

...пройдзе конкурс на самы непрыстасаваны будынак народнага суда вобласці. З вартых даверу крыніц сталі вядомыя магчымыя пераможцы. Несумненным фаварытам з'яўляецца памяшканне Шумілінскага суда, у якім даўно пачарнелі парэпаныя сцены, патрабуюць неадкладнага рамонту падлога, столь. Годную канкурэнцыю шумілінцам акажа будынак нарсуда Кастрычніцкага раёна г. Віцебска. Ва ўпраўленні юстыцыі аблвыканкома цвёрда перакананы, што наўрад ці пераплюне хто памянёных канкурсантаў.

...роўна 10 гадоў назад дэбютаваў грузчык Лепельскага гарпо Васіль Булко на лаўцы падсудных. Тады Феміда пакарала яго за тое, што ён у змове з механікам Ушацкага ДЭУ-100 сцібрыў халадзільнік "Апшэрон". Суд абавязаў Булко "не наведваць павільён "Сюрпрыз", вінна-гарэлачны магазін, кафэ". Але чхаць хацеў ён на строгія патрабаванні трэцяй улады. Дап'янстваваўся да таго, што на гэты раз убухалі яму аж 10 гадоў пазбаўлення волі з адбываннем пакарання ў папраўча-працоўнай калоніі ўзмоцненага рэжыму. Тут ён мусіць лячыцца ад алкагалізму ў прымусовым парадку, павільён "Сюрпрыз" убачыць толькі ў сне.

...сведкай незвычайнага відовішча стала адна маладая асоба з Новалукомля. Яна запеленгавала мужа з каханкай у кватэры. Раззлаваная да глыбіні душы кабета паласнула ножыкам па спіне свайго некалькі разоў.

...дзівосны падарунак атрымала пенсіянерка з Чашніцкага раёна ад суседа-абібока, які абчысціў яе кватэру да ніткі. Незвычайны сюрпрыз падкінулі два гультаі і аршанскаму бомжу. Ен быў абрабаваны пасля сумеснай папойкі.

...няпраўду кажуць, што піва не хмяліць. Малады лепяльчанін настолькі акасеў ад бурштынавага пойла, што і не заўважыў, як з яго знялі норкавую шапку і наручны гадзіннік у піўбары. Разжыўся за чужы кошт сабутэльнік, якога цяпер чакае казённы дом, дзе піўком не паласуешся.

...пытальнікам згінаўся пад цяжарам ношы жыхар Обалі Шумілінскага раёна на вуліцы Рэвалюцыйная ў Віцебску. Міліцыя спыніла яго: "Што валачэш, браток?" Выявілася, аж 20 пляшак гарэлкі камусьці адтарабаньваў затрыманы. Дзе і як раздабываў дэфіцытнае спіртное, таксама праясніцца неўзабаве.

◆ *КРЫМІНАЛЬНЫ СЮЖЭТ*

# ГАЛОЎНЫ ВЕТУРАЧ... ПАД КАНВОЕМ,

## або Як лепельская раённая Феміда пакарала раскрадальнікаў грамадскай маёмасці

Пазіцыя папярэдняга следства і суда можа разысціся. Гэта ў мінулым следства прадвызначала прыгавор суда. Цяпер — інакшыя часіны. У суда можа скласціся свой пункт гледжання. І расцэньваецца гэта як упаўне нармальны, дэмакратычны прававы працэс. Ніхто не папракае, маўляў, пайшоў не туды, не здолеў, не пастараўся. У даным жа выпадку папярэдняе следства і суд "білі ў адно", кваліфікуючы злачынствы, як раскраданне грамадскай маёмасці шляхам прысваення і злоўжывання службовым становішчам, па папярэдняй змове групай асоб, паўторна. Інакш кажучы, злачынства, якое прадугледжана артыкулам 91 частка 2 Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь. Яно не ўскалыхнула правінцыяльны Лепель. Учыняў процiпраўныя дзеянні Юрый Гушча, галоўны ветэрынарны ўрач калгаса імя Чапаева, зрэшты, спецыяліст з вышэйшай адукацыяй, жанаты, 1965 года нараджэння, у кампаніі з загадчыкамі жывёлагадоўчых ферм, што ў вёсках Старое Лядна і Ірынполле, Сяргеем Лукомскім і Жанам Якабсонам, а таксама з майстрам халадзільных установак каапзаготпрома Леанідам Паважным. Сверб карыслівасці настолькі пад'юджваў гэтых малайцоў, што яны пайшлі на парушэнне закона, каб зашаргацелі ў кішэні, прыемна адцягвалі яе буйныя купюры.

Безумоўна, найпершая скрыпка ў злачынным квартэце, яму, Гушчу, належыць, па ранжыру, што называецца. Рахунак цёмных спраў ён адкрыў 13 ліпеня 1992 года. Сумесна з Сяргеем Лукомскім узялі ды ўкралі калгасную карову, вырučаныя ў пяцізначным вымярэнні грошы прысвоілі сабе.

Удача ў скачках у вір абагачэння, як наркотык, яна прымушае ўзбірацца на вышку зноў і зноў. На гэты раз адчуваў сябе шчаслiўчыкам на сёмым небе разам з Леанідам Паважным. Гушча здаваў карову, Паважны яе прымаў. Майстар халадзільных установак таксама з кемных, прапанаваў галоўнаму ветурачу прыпісаць да вагі 50 кілаграмаў. Згода. На ашчадкніжку маці Юрыя Гушчы праліліся спорным дажджом немалыя тысячы. Сын зняў іх, 2 тысячы аддаў Паважнаму, 5 тысяч — Лукомскаму. Добра ўсім: сам не абдзелены, хаўруснікі не ў накладзе...

Не паспелі кампаньёны пацешыцца, налюбавацца буйнымі купюрамі, як пра тайныя аперацыі з крымінальным душком стала вядома праваахоўным органам. Была ўзбуджана крымінальная справа, раскруціўся махавік папярэдняга следства. Улічваючы грамадскую небяспеку ўчыненага, пракурор Лепельскага раёна П.Дзядзюра даў санкцыю на арышт Гушчы на 2 месяцы, і ў суд са следчага ізалятара падследны дастаўляўся пад канвоем.

Судовы разгляд вёўся без асаблівых цяжкасцей. Падсудныя аднадушна прызналіся: узялі грэх на сваю душу, раскайваліся. Адвакаты заяўлялі хадайніцтвы аб перадачы падабаронных на парукі, прасілі далучыць да матэрыялаў крымінальнай справы шэраг дакументаў, у тым ліку характарыстыкі. Я чытаў іх. Па-жыццёваму проста і скупа сказана: хлопцы "свае", маўляў, працавалі з усіх сіл. Старшыня калгаса імя Чапаева В.Ермалаеў пісаў, што "ветэрынарная служба пад кіраўніцтвам Гушчы працавала зладжана, без зрываў. Нараканняў і вострых крытычных заўваг па рабоце ветслужбы з боку праўлення калгаса не паступала. Узнікшыя ў працэсе работы пытанні вырашаліся ў рабочым парадку, неадкладна... Да ўжывання спіртных напіткаў не схільны".

Ну дык як? Ёмка? Хоць ты да ўзнагароды прадстаўляй здатнага спецыяліста. Дзіву даешся, як магло яго "занесці", рупліўца з незаганнай рэпутацыяй. Ён сапраўды шчыраваў, пакуль не паявіўся сверб карыслівасці. Паабвыкся, прыгледзеўся, вывучыў усё. І давай пакрысе дбаць аб дабрабыце не толькі калгасным, але і ўласным. Паступова пачалі змяшчацца ў інакшы бок маральныя крытэрыі. Гаварыў людзям адно, а рабіў іншае. Як бы з двайным дном жыў чалавек, абцяжараны адказнымі службовымі абавязкамі, думаў аб тым, як бы хутчэй скокнуць на агульны стол і адхапіць мацнейшы кавалак пірага.

Ці баяўся, што механіка абагачэння рана ці позна будзе выкрыта? Наўрад. Як галоўны спецыяліст ён не мог не ведаць, што далёка не ўсё ідэальна ва ўліку грамадскай маёмасці, што рэвізоры ўпраўлення сельскай гаспадаркі "свае" — за апошнія гады яшчэ ніводнага матэрыялу не перададзена імі ў праваахоўныя органы. Ці трэба тады здзіўляцца, што кіраўнікі розных рангаў смела клявалі на хітрую блешню нажывы, якая, як наркотык, пад'юджвала на новыя махлярствы. Вось ужо і Жан Якабсон, таксама з вышэйшай адукацыяй, зрэшты, заразіўся хапальным вірусам. Пазмоўніцку, падміргнуўшы Гушчу, сказаў неяк: "На ферме ў Ірынполлі ёсць "лішняя" карова: я яе не апрыходаваў. Давай здадзім яе. З умовай: ты дасі мне на тэлевізар". Гушча пашкрабаў пяцярнёй патыліцу. Ясная справа: рызыкоўна, але ж пахне грашыма, і немалымі. Павагаўся шэф, відаць, для прыліку, але як тут не паспагадаць свайму чалавечку! На судзе Жан сказаў: "Я ведаю, што ўчыніў злачынства. Штурхнула мяне на гэта тое, што ў нас у доме пуста, нават не было тэлевізара".

Не менш шчырыя прызнанні і ў іншых спрытнюг. Гушча, напрыклад, на поўным сур'ёзе тлумачыў суду: думаў, здае "лішнюю" карову, і калгас ад гэтага не стане выціснутым лімонам.

Вось так. Наламаў дроў за кошт службовага становішча, і... калгас не пацярпеў? Дзіўная, аднак, логіка, пагадзіцеся. Суд пад старшынствам Людмілы Міхайлаўны Куцырынай разумеў, канечне, якая грамадская небяспека тоіцца ў злачынстве, што яго выканаўцы заслугоўваюць строгага пакарання. Тым не менш абвешчаны прыгавор, на маю думку, не зусім адпавядае цяжкасці ўчыненага. Мяркуйце самі. Гушча атрымаў 2 гады папраўчых работ па месцы работы і мусіць выплачваць у даход дзяржавы 20 працэнтаў заработку. Не пазбаўлены нават права займаць матэрыяльна адказныя (!) пасады. Уяўляеце? Галоўны спецыяліст не вытрымлівае выпрабавання пасадай, а яму гавораць: усё ў ажуры, Юрый, працягвай, як і раней, кіраваць жывёлагадоўчым цэхам.

Досыць прыхільна пастаўілася раённая Феміда і да Гушчыных калег па злачыннаму рамяству. На 2 гады папраўчых работ "з працэнтамі" асуджаны Лукомскі і Якабсон. Лукомскі дык нават адмовіўся ад паслуг адваката — сам сябе абараняў. Няйнакш як загадзя верыў у звышгуманнасць судовай інстанцыі. Паважны прыгавораны да года папраўчых работ. І гэтым падсудным суддзі сказалі: можаце, спадары ці таварышы, займаць службовыя матэрыяльна адказныя пасады, як і займалі. Ні больш, ні менш.

Прабачце, а якое злачынства трэба было ўчыніць галоўнаму ветурачу калгаса, каб перад ягонай кар'ерай на матэрыяльна адказных пастах хоць бы на пэўны тэрмін паставілі шлагбаум? Няўжо памянёных маніпуляцый з грамадскай жывёлай недастаткова для гэтага вердыкту?

Пакуль гаворка аб матэрыяльным баку. А ёсць жа яшчэ адзін бок медаля — маральны. Хіба можна скідваць з рахунку тое, як у грамадскай думцы ўспрымуцца радкі прыгавору: "Без пазбаўлення права займаць службовыя матэрыяльна адказныя пасты". Ці будзе з боку падначаленых ранейшы давер галоўнаму спецыялісту, які пагрэў рукі за калгасны кошт?

Пытанне далёка не рытарычнае. Бо ў так званы пераходны (невядома вось толькі да чаго) перыяд, калі распрадаецца ўсё і ўся, ігнаруюцца элементарныя нормы маралі і права, наўрад ці паслужыць рашэнне Лепельскага народнага суда сур'ёзнай перасцярогай для нячыстых на руку, ахвочых глыбей залезці ў дзяржаўную кішэнь, калаціць дрэва ўсеагульнага дабрабыту, як грушу, а плады збіраць сабе. За мех украдзенай бульбы з калгаснага поля ці за цэнтнер збожжа ад камбайна асуджаюць часцяком стражэй. Той жа нарсуд у свой час спытаў з калгасніка, які спёр некалькі кілаграмаў камбікорму з фермы, больш сурова, чым за брудны бізнес з ярка выражаным крымінальным адценнем, бізнес, які сляпіў таго, хто па абавязку службы павінен быў пільна стаяць на варце народнага дабра, усямерна прымнажаць яго.

Гэтымі думкамі-я не мог не падзяліцца з суддзёй Людмілай Міхайлаўнай Куцырынай. Яна ўпэўнена: прыгавор справядлівы. Прыводзіць важкія довады ў карысць гэтага. Усё правільна. І тое, што ў зале судовых пасяджэнняў разыгралася сапраўдная трагедыя (Гушча ў сваім апошнім слове прызнаўся, што яму "сорамна глядзець у вочы прысутным і сваякам". — Рэд.), і першая судзімасць у хлопцаў, і рэдкае па цяперашнім часе аднадушша падсудных у прызнанні вінаватасці і г.д., і т.п. Але ж на злачынства ішлі не радавыя людзі — службовыя матэрыяльна адказныя асобы. Яно тоіць у сабе вялікую грамадскую небяспеку. Як тады разумець пазіцыю суда, які нават не палічыў неабходным вынесці прыватнае вызначэнне ў адрас тых, хто павінен ліквідоўваць прычыны і ўмовы для процiпраўных праяўленняў.

А пазіцыя раённай пракуратуры? Судовы працэс праходзіў без яе прадстаўніка. Што ў гэтым вышэйшым наглядным органе за захаваннем законнасці не ўбачылі дастатковых падстаў для ўдзелу ў судовым разборы? Ці лічаць, што ўсё о'кей?

Яшчэ вось на якія думкі наводзіць згаданая крымінальная справа. Як бы ні апаганьвалі, ні ачарнялі трубадуры дэмакратыі і "новага мыслення" час, калі ўладарыла ўсёмагутная партнаменклатура, а падобныя злачынствы не заставаліся тады па-за ўвагай на розных узроўнях. У абавязковым парадку выказалі б сваё стаўленне да здарэнняў у калгасе ў пракуратуры, у выканкоме раённага Савета народных дэпутатаў. Цяпер жа — ніякай рэакцыі. Ці не жывіць пазіцыя "крайняй хаты" сваімі атрутнымі сокамі глебу, на якой шчодра плодзяцца раскрадальнікі грамадскага набытку, прайдзісветы?

Пішу гэтыя радкі і ўспамінаю нядаўні тэлефонны званок у рэдакцыю. Рассерджаны чытач крычаў у трубку:

— Многа гуманнасці стала, вось што! У старыя часы за краты садзілі за злачынствы, за якія цяпер ледзьве не па галоўцы гладзяць. Таму і жывём па-жабрацку, смяшым увесь белы свет сваёй бяздарнасцю і тупасцю.

Ад таго ці не — спрэчна. А наконт строгасці пакарання чытач мае рацыю, канечне.

**М.ПРЫГОЖЫ,**
**аглядальнік па пытаннях маралі і права.**



Ваенны музыкант.

Фота Г. ЖУКАВА.

# Ваш сад — агарод



## Амаль усё пра часнок

Часнок здавён выкарыстоўваюць як вострую прыправу пры кансерваванні агароднiны і грыбоў, а таксама як сродак пры лячэнні многіх захворванняў. Дзякуючы ўтрыманню вялікай колькасці фітанцыдаў часнок валодае магутным процімікробным дзеяннем. Утрымлівае ён і шмат мінеральных і бялковых рэчываў, вітамінаў, эфірных алеяў.

У тыбецкай медыцыне часнок карыстаўся славай эліксіру маладосці, смеласці і бадзёрасці. Аднак яго прымяненне процiпаказана пры захворваннях страўнікава-кішэчнага тракта, печані, нырак. У некаторых людзей часнок можа выклікаць моцную алергію (галаўны боль, ташнату, рвоту).

Часнок вядомы азімы (які стралкуецца) і яравы (не стралкуецца). Азімы фарміруе цыбуліны з 5—8 буйнымі зубкамі, высаджваюць яго ў глебу восенню, вясной ён выкідвае кветкавую стрэлку з паветранымі бульбачкамі ў шчыльным чахле. У залежнасці ад сорту колькасць бульбачак у адным чахле можа дасягаць 150 штук. Яравы ж часнок фарміруе цыбуліну з вялікай колькасцю (10—30) дробных зубкоў. Па ўраджайнасці ўступае азімым сартам, але добра захоўваецца. Зубкі яравога часнаку высаджваюць вясной.

Пад часнок адводзяць добра асветлены ўрадлівы ўчастак з нейтральнай рэакцыяй глебы. Нельга размяшчаць часнок пасля часнаку або цыбулі. Лепшымі папярэднікамі для яго з'яўляюцца ранняя капуста, бабовыя і гарбузовыя культуры. Перад пасадкай у глебу ўносяць 4—6 кг перагною або кампосту і па 20—30 г двайнога суперфасфату і хлорыстага калію на 1 кв.м. Вясной уносяць яшчэ і азотныя ўгнаенні — 15—25 г аміячнай салетры на 1 кв.м. Лепш вырошчваць часнок на градах вышынёй 15—20 см і шырынёй 1 м, якія размяшчаюцца з поўначы на поўдзень.

Азімы часнок ("Палёт", "Юбілейны", "Грыбаўскі") высаджваюць у падрыхтаваную глебу ў канцы верасня — пачатку кастрычніка на адлегласці 5—10 см адзін ад другога на глыбіню 4—6 см, лічачы ад вяршыні зубка да паверхні глебы. Напярэдадні пасадкі цыбуліны раздзяляюць на асобныя зубкі, якія на ноч замочваюць у 0,1-працэнтным (1 г на 1 л цёплай вады) растворы марганцавакіслага калію. Пасля пасадкі радкі мульчыруюць (прысыпаюць) торфам або перагноем слоем 1,5—2 см. Паветраныя бульбачкі азімага часнаку таксама з'яўляюцца добрым пасадачным матэрыялам. Іх можна высаджваць як восенню, так і рана вясной. Бульбачкі высаджваюць густа: паміж радамі 20 см, у радзе 2—3 см. Восенню глыбіня пасадкі 4—5 см, вясной 3—4 см. Радкі таксама мульчыруюць торфам або перагноем, а на зіму дадаткова ўкрываюць саломістым гноем. З паветраных бульбачак вырастаюць буйныя зубкі-адназубкі. Таму што яны дрэнна захоўваюцца, іх высаджваюць пад зіму і на наступны год атрымліваюць нармальную буйную цыбуліну з некалькімі зубкамі.

Вясной і летам догляд часнаку заключаецца ў праполках і рыхленні глебы ў радах і міжрадкоўях, палівах пры падсыханні глебы, падкормках мінеральнымі (30 г нітрафоскі на 10 л вады) або арганічнымі ўгнаеннямі. Паліваць і падкормліваць расліны неабходна толькі пад корань. Каб паскорыць паспяванне і павялічыць ураджай, стрэлкі (у пачатку іх паяўлення) выломваюць. Толькі на некалькіх самых моцных раслінах стрэлкі пакідаюць для атрымання паветраных бульбачак. Перад паспяваннем на стрэлкі надзяваюць марлевыя мяшэчкі. Гэта дазволіць захаваць бульбачкі пры разрыве чахла. Пры раскрыцці абгортак суквеццяў стрэлкі зразаюць, звязваюць і дасушваюць пад павеццю. Адназубкі выбіраюць у першую чаргу (звычайна ў пачатку ліпеня). З уборкай цыбулін спазняцца таксама нельга: пры пераспяванні яны рассыпаюцца. Калі лісце часнаку пачынае жаўцець (канец ліпеня — пачатак жніўня), расліны падкопваюць лапатай, вырываюць з глебы і сушаць 5—7 дзён на градзе, пад павеццю ці ў іншым добра праветрываемым памяшканні. Пасля прасушвання карэнне і бацвінне абразаюць, пакідаючы "шыйку" даўжынёй 4—5 см. Ураджайнасць азімага часнаку ў сярэднім складае 1,5 кг з квадратнага метра.

Зубкі яравога часнаку (у асноўным мясцовых сартоў) высаджваюць у самыя раннія тэрміны, адразу пасля адтайвання глебы. Падрыхтоўка глебы, унясенне ўгнаенняў, схема пасадкі і догляду такія ж, як і для азімага часнаку. Глыбіня пасадкі ад паверхні глебы да вярхушкі зубка — 2—3 см. Убіраюць яравы часнок пры ўсыханні ніжніх і пажаўценні верхніх лістоў у канцы жніўня — першай палавіне верасня. Ураджайнасць складае каля 1 кг з квадратнага метра.

Найбольшую шкоду пасадкам часнаку наносяць лічынкі цыбульнай мухі. У якасці мер барацьбы з гэтым шкоднікам можна парэкамендаваць збор і знішчэнне раслінных рэштак і пустазелля, абавязковае чаргаванне культур, глыбокую восеньскую перакопку ўчастка, вапнаванне і рыхленне глебы. Пасля з'яўлення ўсходаў глебу ў міжрадкоўях пасыпаюць попелам або сумессю попелу і тытунёвага пылу, тытунёвага пылу і гашанай вапны (1:1). На 10 кв. м пасадак расходуюць 1 кг сумесі. У перыяд інтэнсіўнага лёту цыбульнай мухі і адкладкі яец (цвіценне яблынь) усходы часнаку паліваюць растворам солі (1 шклянка на 10 л вады) або растворам хларафосу (20 г на 10 л вады). На 10—15 пагонных метраў радка расходуюць 10 л раствору.

Захоўваюць часнок пры тэмпературы ад -1 да +4 і вільготнасці паветра 75—80 працэнтаў. Пры захоўванні яго ў пакаёвых умовах страты могуць дасягаць 50 працэнтаў. Каб падоўжыць захаванасць часнаку ў пакоі, карэньчыкі пасля прасушвання трэба абпаліць па працягу 7—10 секунд над полымем газавай гарэлкі і захоўваць у папяровым пакеце. На зіму добра прасушаны часнок можна закапаць у шчыльна завязаным поліэтыленавым пакеце ў глебу на глыбіню 30—40 см. Вясной такі часнок будзе як свежы.

## Як атрымаць насенне цвятной капусты

**Цвятная капуста — аднагадовая расліна, і таму насенне яе можна атрымаць ужо ў першы ж год. Гэта капуста вельмі любіць вільгаць і патрабавальная да ўмоў харчавання. Паспяваюць галоўкі ўжо ў сярэдзіне ліпеня. Пры распаданні галовак лішнія галіны выразаюць, пакідаючы пяць краявых восей, на якіх фарміруецца найбольш паўнаважкае насенне. Паліваць насеннікі трэба пад корань. Цвіценне пачынаецца ў канцы ліпеня і можа працягвацца (у залежнасці ад сорту і ўмоў надвор'я) на працягу месяца. Уборку пачынаюць у верасні, калі насенне дасягне васковай спеласці. Насеннікі вырываюць з коранем і даспельваюць 20—30 дзён у добра праветрываемым памяшканні. Пасля даспельвання стручкі абмалочваюць уручную, ачышчаюць ад прымесей і дасушваюць.**

◆ ВАША ЗДАРОЎЕ

# КАЛІ ХВОРАЕ СЭРЦА...

**Наш госць — загадчык аддзялення рэабілітацыі санаторыя "Крыніца" кандыдат медыцынскіх навук Ю.А.КАВАЛЬЧУК.**

**Семнаццаць гадоў назад рэабілітацыя (далечванне ва ўмовах санаторыя) хворых інфарктам міякарда была зусім новым накірункам. Памятаю, шмат намаганняў прыклалі медыкі для яе развіцця ў нашай рэспубліцы: былі прыцягнуты лепшыя сілы, выдаткаваны значныя сродкі. Велізарную дапамогу аказалі навуковыя супрацоўнікі БелНДІ кардыялогіі, Белсаветкурорт.**

— Адкрыццю нашага аддзялення рэабілітацыі папярэднічала карпатлівая падрыхтоўчая работа. Усе былі захоплены новай ідэяй, таму што яна адкрыла яшчэ адзін этап у лячэнні хворых, якія перанеслі інфаркт міякарда.

Як дзяржаўная праграма трохэтапная сістэма рэабілітацыі (яна ўключае ў сябе бальніцу — санаторый—кардыялагічны цэнтр) пачала ажыццяўляцца 15 гадоў назад. У 1978 годзе ў санаторыі "Крыніца", што пад Мінскам, было адкрыта першае ў Беларусі санаторнае аддзяленне далечвання хворых, якія перанеслі інфаркт міякарда. Узначаліць яго мне даверылі ў 1983 годзе. Абараніў кандыдацкую дысертацыю. Маю 25 друкаваных работ, тры аўтарскія пасведчанні на вынаходствы.

**— У нашы дні сардэчна-сасудзістыя захворванні займаюць першае месца сярод прычын смяротнасці. Чаму?**

— Мудрая прырода, ствараючы сэрца, мусіць, штосьці не прадугледзела. Сваёй дасканаласцю яно здзіўляе і медыкаў, і інжынераў, і біёнікаў. Не, хутчэй за ўсё не прырода, сам чалавек вінаваты ў гэтым. І цяпер урачы ўсяго свету шукаюць сродкі, каб абараніць сэрца.

Фантастычнай здаецца прадбачлівасць, з якой адрэгуляваны адносіны арганізма з сэрцам. Пры моцным крывацёку, напрыклад, унутраныя органы адзін за другім у строгай паслядоўнасці адключаюцца ад забеспячэння крывёю дзеля таго, каб падтрымаць сэрца. Яно скарачаецца (удумайцеся толькі!) прыкладна сто тысяч разоў у суткі з сілай, дастатковай для "праштурхоўвання" крыві праз артэрыі, вены, капіляры, агульнай даўжынёй звыш 100 тысяч кіламетраў... За суткі сэрца дарослага чалавека перапампоўвае каля 14 тон крыві. А за 70 гадоў? Падлічыце самі... За гэты перыяд яно выконвае работу, раўназначную падняццю 10 тон грузу на 16-кіламетровую вышыню. На працягу жыцця сэрца — гэты маленькі працаўнік, памеры якога не перавышаюць велічыні кулака, — працуе бесупынку, не спыняючыся нават на некалькі секунд...

**— Што такое інфаркт міякарда?**

— Міякард — гэта мышца, з якой складаецца практычна ўсё сэрца. Дзякуючы такой будове яно здольна выконваць велізарную работу па перапампоўванню праз сябе і забеспячэнню ўсіх органаў і тканак крывёю, у якой знаходзіцца кісларод, іншыя неабходныя для жыцця рэчывы. Для такой вялікай работы сэрца само патрабуе ўзмоцненага харчавання. І хаця яно па сваёй масе ў 200 разоў менш за цела, на яго траціцца дзесятая частка ўсёй крыві...

Для дастаўкі гэтай значнай колькасці крыві прырода акружыла сэрца мноствам сардэчных сасудаў, размяшчэнне якіх нагадвае карону. Адсюль і назва: каранарныя артэрыі.

Сардэчныя сасуды падобныя на эластычныя трубкі. Пры ўзмоцненай рабоце яны расшыраюцца і павялічваюць прыток крыві да сэрца.

Цяпер уявіце наступнае. Адзін з вашых сардэчных сасудаў стаў мала ці зусім непраходным. Гэта магло здарыцца ў выніку раптоўнага звужэння альбо закаркоўвання яго згусткам крыві, так званым тромбам. Сэрца паведамляе аб гэтым болем. У галадаючым участку развіваюцца змяненні, якія пазбаўляюць яго здольнасці скарачацца. Гэтыя змены называюць інфарктам. Паколькі адбываюцца яны ў міякардзе, то хваробу называюць інфаркт міякарда.

З'яўленне цяжкіх прыступаў, асабліва іх зацяжны характар, — не што іншае, як папярэднік інфаркту міякарда. У асобных выпадках няцяжкі інфаркт хворыя пераносяць на нагах, не звяртаючыся да доктара. Гэтага рабіць нельга. Аднак больш тыпова для інфаркту бурнае цячэнне ў самым пачатку. Тады ўжо таблетка нітрагліцэрыны, якая раней аблягчала стан арганізма, амаль не змяншае боль. Толькі ўвядзенне спецыяльных лекавых сродкаў дазваляе справіцца з прыступам.

**— Як развіваецца "хвароба стагоддзя"?**

— Развіццю атэрасклерозу садзейнічае няправільнае харчаванне. Асабліва лішкі жывёльнага тлушчу, вугляводаў, кухоннай солі і г.д. Садзейнічае развіццю хваробы курэнне, недастатковая фізічная актыўнасць (гіпадынамія), павышаны артэрыяльны ціск, працяглае нервовае напружанне. Асабліва трэба ўлічваць такія моманты, як псіхалагічны "клімат" у сям'і, на рабоце і г.д.

Цяпер у медыцынскай літаратуры абмяркоўваюцца звыш 35 фактаў рызыкі, якія садзейнічаюць ішэмічнай хваробе сэрца.

**— Юрый Афонавіч, чаму "маладзее" інфаркт. Як вы мяркуеце?**

— Сапраўды, у апошні час назіраецца дынаміка амаладжэння інфаркту міякарада. Калі раней у асоб, маладзейшых за 30 гадоў, гэтая хвароба сустракалася вельмі рэдка, то цяпер такія выпадкі рэзка ўзраслі. Коратка я назваў бы некалькі асноўных прычын — у першую чаргу нерацыянальнае харчаванне з вялікім утрыманнем у прадуктах халестэрыну, курэнне і адсутнасць дастатковай фізічнай актыўнасці на фоне псіхаэмацыянальнага напружання.

Малюнак дэградацыі знаёмы нам са школьнай парты па вобразу лянівага Абломава. А жыццё — гэта рух.

**— Цяпер, калі ласка, пра эфектыўнасць рэабілітацыі.**

— Яна, эфектыўнасць, вызначаецца не толькі якасцю лячэбных устаноў, але і актыўнасцю, свядомасцю і дысцыплінаванасцю саміх хворых. Перш за ўсё трэба строга выконваць рэкамендацыі, прадпісанні ўрача. Карысная спецыяльная лячэбная гімнастыка. Галоўнае пры такіх практыкаваннях — яны не павінны выклікаць перагрузак. Хацелася б перасцерагчы тых, хто, жадаючы займацца фізічнай працай на дачы, пераацэньвае фізічныя магчымасці і ўскладае на сябе непасільную нагрузку. Пазбягайце таксама эмацыянальных стрэсаў.

Вядома, што злосныя, заўсёды і ва ўсім незадаволеныя людзі больш схільныя да хвароб, інфаркту міякарада — таксама. Такія людзі жывуць менш.

Праблемай прадаўжэння жыцця чалавека цікавяцца не толькі медыкі і біёлагі, але і эканамісты, сацыёлагі, палітыкі. Аддаліць наступленне старасці, паставіць хворага, што называецца, на ногі — значыць, зберагчы для грамадства найбольш вопытных і высокакваліфікаваных спецыялістаў.

Сэрца чалавека можа і павінна быць здаровым.

Гутарыў
**Алесь БЯРЖЫНСКІ.**


За ваколіцай.
Мал. А. ДАРАГАКУПЦА.

◆ ПАЛІТЫЧНЫ ПРАГНОЗ

# Што дзень наступны нам рыхтуе

**Апошнім часам уважліва чытаю астралагічныя прагнозы, у многім яны супадаюць, асабліва для маіх Рыб. Пераканана, што нейкімі тайнамі астролагі валодаюць. А што яны гавораць аб палітычным стновішчы ў краіне? Што чакае нас у недалёкай будучыні? Такія прагнозы рэдка сустракаюцца на старонках газет, але яны, відаць, выказваюцца астролагамі.**

**В.ЖУК.**
**г.Віцебск.**

Нядаўна ў Мінску пабываў вядомы Павел Глоба. Гутарку з ім надрукавала газета "Рэспубліка". Вось кароткі яе пераказ.

Наступіў самы цяжкі перыяд: канфлікты, катаклізмы, грамадзянскія войны... І цяпер нам давядзецца вельмі цяжка. Становішча планет не садзейнічае стабілізацыі. А 10 і 25 мая яшчэ будуць два зацменні. Чакаецца барацьба паміж светам і і цемрай. Абстаноўка пачне стабілізавацца дзесьці ў канцы мая — пачатку чэрвеня будучага года.

У час нядаўніх трагічных падзей у Маскве адбыўся падзел царства Сатаны. Адзін і другі варожыя бакі прадстаўлялі яго сілы. І гэтыя сілы ўцягнулі нявінных, якія сталі ахвярамі.

З цягам часу Аляксандр Руцкой стане амаль ці не нацыянальным героем. Сімвалічна, што гадзіннік спыніўся на 10.05. Час спыніўся для ўсёй Савецкай улады. З гэтага моманту пачаўся новы перыяд для ўсёй краіны, для ўсяго блізкага замежжа. Спачатку будзе распад, а потым аб'яднанне.

Не лічу, што Ельцын перамог. Гэта пірава перамога. Цяпер у яго няма ворагаў і яму трэба трымаць адказ за свае абяцанні. Гайдар пакажа некампетэнтнасць і адарванасць сваіх праграм ад жыцця. Мафія, якая ўжо кіруе краінай, яшчэ больш нахабна павядзе сябе. Узнікне новая змова. У ёй будзе ўдзельнічаць армія, якая ўжо адчула пах крыві. У змове аб'яднаюцца сілы апазіцыі, што ў падполлі, і армія. Адбудзецца ваенны пераварот. Расію выбары не выратуюць.

Пакуль няма чалавека, які мог бы ўмела і дастойна кіраваць Расіяй. Такі чалавек з'явіцца ў 1996—1997 гадах. Цяпер вылучаюцца часовыя людзі.

Беларусь пакуль не знайшла свой шлях. Упушчаны магчымасці, якія былі сёлетняй восенню. Як вынік — пагаршэнне эканамічнага стану. Тут паўторыцца ў нейкай ступені расійскі варыянт. Будуць выбары прэзідэнта, відаць, праз год. Вясной выбары наўрад ці адбудуцца. Дэпутаты, хутчэй за ўсё, будуць цягнуць, пакуль ім не прапануюць убірацца.

Шушкевіч быў вельмі блізка, каб стаць прэзідэнтам. Але ён упусціў свой шанц. У наступным годзе ў яго шанцаў няма. Не стане лідэрам і Зянон Пазняк...

А рэспубліка сапраўды стане цэнтрам духоўнага адраджэння славянскіх народаў. Яе лідэры будуць гарантам стабільнасці. Гэта адбудзецца таксама і з-за таго, што тут не будзе катаклізмаў, кровапраліцця. У Беларусі добрае геастановішча. Тут скрыжоўваюцца шляхі паміж Усходам і Захадам, Прыбалтыкай і Украінай.

Такія прадраканні Паўла Глобы. Хочаце — верце, хочаце — не.

◆ ХАТНЯЯ ЭНЦЫКЛАПЕДЫЯ

# Захаваем цяпло ў доме

Уцяпленне вокнаў звычайна зводзіцца да задзелкі буйных шчылін ватай ці паралонам і аклейкай рам па перыметру палоскамі паперы на мучным клейстары. Але гэтага недастаткова. Абавязкова трэба праверыць, ці цэлая замазка на рамах, ці не дала яна трэшчын. Калі акажацца, што аконная замазка ўсохла і аддзялілася ад шкла, але захавала трываласць, можна і не замяняць яе. Трэба толькі прыняць меры, каб вільгаць, што сцякае па шкле, не трапляла ўнутр і не выклікала гніення рамы. Рэкамендуецца тонкім пэндзлікам запусціць масленую фарбу ва ўсе трэшчыны, каб не засталося шчылін. Можна таксама прыгатаваць крыху свежай замазкі, больш рэдкай, чым звычайна, і ўцерці яе шпатэлем у шчыліны і трэшчыны. Калі ўсё высахне, трэба пакласці свежы слой фарбы, злёгку прыхопліваючы і краёк шкла.

Рамы больш зручна заклейваць не паперай, а палоскамі баваўнянай тканіны. Іх можна нарэзаць, напрыклад, са старой прасціны, намачыць, адціснуць і густа намыліць гаспадарчым мылам. Палоскі з тканіны добра аблягаюць шпінгалеты, завесы, пры наклейванні трывала трымаюцца, не пакідаючы слядоў, не жаўцеюць з цягам часу і захоўваюць да вясны акуратны выгляд.

Калі ж акно ці балконныя дзверы трэба адчыняць і зімой, то ўцяпленне лепш за ўсё зрабіць пры дапамозе ўцяпляльных валікаў (гл. малюнак а). Да вонкавага бруска 2 (мал.б) рамы 1 шпалернымі цвікамі 3 прымацоўваецца паласа цыраты ці дэрмаціну 4. Паласу цыраты трэба падгарнуць так, як паказана на малюнку, папярэдне паклаўшы ўнутр палоску з паралону 5.




Пры ўцяпленні і заклейцы вокнаў на зіму трэба паклапаціцца і аб тым, каб шкло не запацявала і не замярзала. Для гэтага здавён укладвалі паміж рамамі вату, пілавінне або ставілі ў слоіках сухую кухонную соль. Калі ж у вашым доме сучасныя спараныя рамы на вінтах, пазбегнуць запацявання і замярзання можна даволі нечаканым спосабам. Трэба прасвідраваць у вонкавай раме малюсенькія адтуліны, якія злучаць прастору паміж рамамі з вуліцай. Халоднае і сухое вонкавае паветра будзе ствараць паміж рамамі неабходны ціск і не дасць пранікнуць цёпламу вільготнаму паветру з пакоя.

# Ці будзе канец свету?

Усе стагоддзі былі поўныя прадказаннямі глабальных катастроф і гібелі чалавецтва. І XX стагоддзе — не выключэнне. Мы ж, простыя людзі, не тое, каб верылі ў прадказанні гэтыя, але абвергнуць іх не можам: не надзеленыя мы здольнасцю бачыць будучыню, а ў сённяшнім жыцці нашым так мала прыкмет заўтрашняга залатога світання...

Мудрасць духоўных настаўнікаў мае сваім пачаткам найвышэйшую крыніцу. Таму кнігі, якія напісаны імі, словы, сказаныя імі, і праз тысячагоддзі азораны ззяннем Ісціны. Думаецца, небезабыякавым будзе нашаму чытачу, што гаворыць аб такіх "прадбачаннях" сучасны геніяльны духоўны настаўнік Шры Чынмой: "Свет поўны фантазій. Бог вельмі добры да нас, ён даў нам уяўленні ў неабмежаванай меры. Ні Каліфорнія, ні Пуэрта-Рыка, ніякая іншая частка свету не можа быць разбурана. Гэта проста абсурдна і немагчыма, нават калі так гавораць астролагі... Што датычыцца частак сушы, якія апускаюцца ў мора, то такога роду змяненні зямной паверхні заўсёды магчымыя, але гэта не можа быць прадказана ні з якой дакладнасцю астролагамі, бо заўсёды дзейнічаюць сілы, якія нельга вылічыць...

Бог не збіраецца знішчаць гэтую планету. Чалавечыя істоты вельмі слабыя, але Бог мае асаблівую прыхільнасць і любоў да чалавечых істот і асаблівыя блаславенне, любоў і пяшчоту да гэтай планеты Зямля".

Шры Чынмой вучыць, што Зямля — гэта складаны свет, у якім дзейнічаюць сілы рознага дыяпазону: ад дрэнных да самых лепшых. А чалавек нараджаецца тут з тым, каб усвядоміць найвышэйшую Ісціну і пераўтварыць Зямлю ў планету Радасці, Любові і Свету.

"Настане час, калі гэты свет наш будзе напоўнены Спакоем. Хто зробіць гэта карэннае пераўтварэнне? Гэта будзеце вы, вы і вашы браты і сёстры, вы і вашы сэрцы — адзінства", — звяртаецца да ўсіх міралюбівых людзей Шры Чынмой.

**Ю.МАСКАЛЁЎ.**

◆ СА СТУЖКІ ТЭЛЕТАЙПА

# «Амерыканская ўсмешка»? Гэта рэальна!

Усур'ёз вырашылі заняцца нашай "усмешкай" беларускія і нямецкія медыкі. З асацыяцыі стаматолагаў Германіі прыехалі прадстаўнікі ў Беларусь, каб азнаёміцца са станам спраў у гэтай важнай галіне медыцыны. Ад гасцей нічога не ўтойвалі. За час візіту яны наведалі самыя "гарачыя", паражоныя радыяцыяй, раёны рэспублікі. Правялі няма ла сустрэч, семінар "Развіццё стаматалогіі ў фарміруемых рыначных умовах". І, ацаніўшы стан беларускай стаматалагічнай службы як безнадзейны, прапанавалі сваю дапамогу.

— І мы, зразумела, не адмовіліся, — гаворыць прэзідэнт асацыяцыі стаматолагаў Беларусі прафесар Эдуард Мельнічэнка. — Але адразу паставілі адну важную ўмову: не прысылаць аднаразовыя шпрыцы і прэпараты, а навучыць беларускіх стаматолагаў лячыць зубы, аздараўліваць поласць рота па самых сучасных метадах, якія выкарыстоўваюць нямецкія медыкі.

Беларусам не адмовілі, але таксама паставілі пэўныя ўмовы: на вучобу запросяць толькі ўрачоў, якія валодаюць нямецкай мовай, але самае галоўнае — з велізарным жаданнем асвоіць новае на прыктыцы. Для гэтага нямецкі бок запрасіў беларускіх экспертаў наведаць шэраг клінік у Германіі і даць прынцыповую згоду на супрацоўніцтва. У бліжэйшы час дэлегацыя з рэспублікі адправіцца да сваіх калег.

**Наталля НЕВІДОМАЯ,**
**Белінфарм.**
Мінск.

